## Экс-сенатар за кошт свайго прадпрыемства адрамантаваў «Таёту» на 300 мільёнаў

Тыя грошы. з яго цяпер спаганяюць праз суд.
**Старонка 7.**

## «Сустракаў беларусаў на баку Кіева — больш яны ні з кім не сустрэнуцца»

Беларускі спецназавец ваюе за ДНР.
**Старонка 4.**

## Вольга Карач: «У мяне хвароба Бехцерава, але я не здалася»

Гутарка з лідаркай грамадскай кампаніі «Наш дом». **Старонка 9.**

№ 5 (890) 4 лютага 2015
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Беларусь — частка рускага свету? Забудзьце!

Што засталося па-за ўвагай тэлебачання падчас прэс-канферэнцыі Лукашэнкі. **Старонка 3.**

# Паэт заклікаў рускую культуру да свядомага «самаўмалення» дзеля адраджэння беларускасці

**Дзмітрый Строцаў папярэджвае, што інакш беларуская мова знікне.**

У часы, калі ў Расіі квітнее рускі шавінізм, рэзкім кантрастам прагучаў голас значнага рускамоўнага паэта з Беларусі 51-гадовага Дзмітрыя Строцава.

На Днях рускай кнігі і рускамоўных літаратур у Парыжы ён двойчы паўтарыў наступныя тэзісы:

«Першае, пра што сёння трэба казаць, — гэта пра кенозіс рускай мовы ў Беларусі, пра кенозіс як пра ўсвядомленую задачу, аб новай мадэлі паводзін, аб самаўмаленні рускага ў сітуацыі памежжа, у сітуацыі сустрэчы з іншай моўнай стыхіяй — беларускай. Неабходна забыцца пра якую-кольвек барацьбу за ўплыў, аб спаборніцтве, аб праявах «мяккай» сілы.

А сіла ёсць, і вось якая: у 90 выпадках са 100 камунікацыя з дзецьмі і падлеткамі ў беларускіх дзіцячых садках і школах вядзецца на рускай мове, ва ўсіх вышэйшых навучальных установах выкладанне вядзецца на рускай мове, амаль у 100 выпадках тэлевізійнае і радыёвяшчанне — на рускай, газеты і часопісы — амаль усе на рускай, кнігі ў кнігарнях практычна ўсе на рускай мове.

Немагчыма паўплываць на камерсантаў, якія змагаюцца за рынкі, але мы, літаратары, павінны ўсвядоміць сваю адказнасць. З нашага папушчальніцтва, з-за нашых крыўдаў беларуская мова можа раптам знікнуць у Беларусі, як ужо адбылося з ідыш, які яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя быў адной з дзяржаўных моў у Савецкай Беларусі. Неабходна саступальная камунікацыя, уважлівая сустрэча з беларускай славеснасцю, неабходна актыўна перакладаць беларускіх аўтараў на рускую, прапагандаваць беларускую літаратуру, прыцягваць беларусаў да ўдзелу ў расійскіх праектах усюды, дзе толькі можна.

І мы павінны дапамагчы тым расейскамоўным аўтарам Беларусі, якія яшчэ не зусім адарваліся ад каранёў, перайсці з рускай на беларускую. Гэта годна, гэта па-хрысціянску, гэта — кенозіс. Нельга скнарнічаць», — падсумоўвае Строцаў.

**Кенозіс** — тэалагічны тэрмін, які азначае ахвярнае і прыніжанае сыходжанне бога ў свет, з любові да людзей



**Дзмітрый Строцаў** — паэт-метафізік, сябар Беларускага ПЭН-пэнтра і выдавец (выдавецтва «Вінаград»). Праваслаўны вернік, ён выдае шмат непрыбытковай беларускамоўнай праваслаўнай літаратуры. Мае расейскія карані. Па прафесіі ён архітэктар.

Заклік Строцава да свядомага самаўмалення рускай культуры ў Беларусі, заклік да рускамоўных беларусаў вяртацца да мовы сваіх прашчураў — каштоўны маральны жэст, рэдкасны на планеце, дзе часцей адбываецца вайна культур.

Мікола Бугай

## Беларускі дыпламат просіць дапамогі ў ЗША: на коне наша незалежнасць

**Павел Шыдлоўскі выступіў з нечаканай заявай.**

Часовы паверaны ў справах Беларусі ў ЗША Павел Шыдлоўскі зрабіў шэраг гучных заяў, выступаючы на канферэнцыі Атлантычнай рады, прысвечанай праблемам Усходняга партнёрства. У прыватнасці, кіраўнік беларускай амбасады прызнаў праблемы з дэмакратыяй у Беларусі, аднак папрасіў «працягнуць руку дапамогі», бо незалежнасць краіны знаходзіцца пад пагрозай.

«Зноў усе крытыкуюць Беларусь за праблемы з правамі чалавека. Так, у нас ёсць праблемы з правамі чалавека, праблемы з дэмакратыяй. Усё не так ідэальна, як магло б быць. Мы робім усё, што можам, каб палепшыць сітуацыю з правамі чалавека. Але ў сённяшняй сітуацыі важна, што на коне сам наш суверэнітэт, наша незалежнасць», — заявіў Шыдлоўскі.

У такой сітуацыі, працягнуў ён, Беларусь неабходна далучаць у супрацоўніцтва і з ЕС, і з Расіяй. «Таму я прапаную ўсім выступоўцам прызнаць асаблівае месца Беларусі,



яе асаблівую ролю ў гэты момант і працягнуць ёй руку дапамогі ў той эканамічнай сітуацыі, у якой яна апынулася ў сувязі з эканамічнымі праблемамі ў Расіі», — сказаў беларускі дыпламат.

Шыдлоўскага перапыталі, што менавіта стала прычынай занепакоенасці: нестабільнасць або канкрэтная краіна. На гэта беларускі дыпламат адказаў: «Нестабільнасць, а не канкрэтная краіна. Я не буду называць канкрэтныя краіны. Нестабільнасць, непрадказальнасць, гонка ўзбраенняў на захадзе ад нас. Мы павінны разумець, што адбываецца, што гэта не накіравана супраць нас, што наша краіна не стане разменнай картай у гэтай геапалітычнай гульні і што мы не страцім незалежнасць».

Цыт. Tut.by

## У падтрымку кнігарні «логвінаЎ» сабралі ўжо $10 тысяч

**Патрэбна ж у 6 разоў больш.**

«Калі менавіта гэты пост да заўтрашняга, суботняга, вечара набярэ 2000 лайкаў, то вядомы мне чалавек адправіць на рахунак кнігарні Логвінава $2000», — напісаў на мінулым тыдні ў «Фэйсбуку» Аляксей Лявончык. У выніку колькасць лайкаў перавалiла за 3400.

Як паведаміў былы ўласнік кнігарні «логвінаЎ» Ігар Логвінаў, той дабрадзей пералічыў на рахунак $2000.

Па словах Ігара, ужо 243 чалавекі падтрымалі кнігарню рублём. Агульная сума сабраных грошай складае $10 тысяч. Сабраць жа трэба $62 тысячы. На гэта ёсць тры тыдні.

Каб неяк аддзячыць, на стале кнігарні вешаюць зорачкі з імёнамі дабрадзеяў (хто пагадзіўся афішаваць сваё імя) — ладзіцца акцыя «Не загаснуць зоркі ў небе». Там ужо з'явілася 200 зорак.

Эканамічны суд Мінска прыняў рашэнне аштрафаваць «логвінаЎ», бо кнігарня працавала без ліцэнзіі Міністэрства інфармацыі. Па яе звярталіся шэсць разоў, але атрымалі столькі ж адмоваў.

Цяпер кнігарня працягвае працу, яна зарэгістравана на новую юрыдычную асобу і атрымала ліцэнзію міністэрства.

СМ

Ахвяраванні на ўратаванне кнігарні «логвінаЎ» можна зрабіць двума спосабамі.

1) Прынесці грошы (толькі ў беларускіх рублях) у кнігарню (Мінск, пр-т Незалежнасці, 37а). Звярнуцца трэба да прадаўца, а пры сабе мець пашпарт.

2) Даслаць на літоўскі рахунак Літаратурнага дома «Логвінаў» (праз інтэрнэт-банкінг альбо праз сістэму PayPal) у далярах і еўра:

LT052140030003236738

Logvino literaturos namai

Nordea Bankas, Bank code 21400

Swift code NDEALT2X

## Сціслa

**Караюць нават «Белсаюздрук»**

Міністэрства гандлю на два тыдні прыпыніла дзейнасць 17 кіёскаў «Саюздруку» ў Мінску і ва ўсіх абласных цэнтрах. Выяўлены продаж тавараў са скончаным тэрмінам прыдатнасці, а таксама няпоўная інфармацыя пра тавары.

**Францкевіч асуджаны на 25 сутак**

Былога палітвязня пакаралі нібы за лаянку і супраціў міліцыі. Францкевіч назваў суд і арышт «палітычнымі рэпрэсіямі», да якіх ён ужо прывык.

**Грузаперавозчыка пасадзілі перад акцыяй пратэсту**

Дырэктар фірмы грузаперавозак Сяргей Штода, які паабяцаў, што перавозчыкі выйдуць 4 лютага да Дома ўрада, каб абараняць свае правы, асуджаны да 15 сутак арышту, нібыта за «нецэнзурную лаянку». За дзень да акцыі ён пайшоў на прыём да першага віцэ-прэм'ера Васіля Мацюшэўскага. Бізнесмэн дамагаўся амністыі па штрафах, якія ўтварыліся ў першыя тры месяцы працы сістэмы платных дарог «Белтол» праз тэхнічныя збоі.

**Чвэрць бюджэту Расіі траціцца на армію**

Лічба павялічана ў параўнанні з мінулым годам, калі Мінабароны «з'ела» 19,2% федэральнага бюджэту. З кожным годам растуць пастаўкі ў войска новай тэхнікі.

АГ, ЯМ

## Апытанні на nn.by

**Ці спадабалася Вам прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 158 | 11% |
| Не | 6 | 5% |
| Ай, гаварыльня... | 285 | 19% |
| Усё як заўжды | 351 | 23% |
| Не глядзеў | 634 | 42% |

Прагаласавала 1504 чалавекі

**Вы за тое, каб цэны на гарэлку былі павялічаны ці зніжаны?**

| | | |
|---|---|---|
| Каб павялічаны | 407 | 57% |
| Каб зніжаны | 44 | 6% |
| Каб засталіся, як цяпер | 51 | 7% |
| Гарэлка ў сацыяльна арыентаванай дзяржаве павінна быць задарма | 214 | 30% |

Прагаласавала 716 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 28 студзеня —3 лютага

1 Беларус, які ваюе за ДНР: Сустракаў беларусаў на баку Кіева — больш яны ні з кім не сустрэнуцца

2 Лукашэнка: «Беларусь — частка «рускага свету»? Забудзьце». «Праз пару месяцаў мы пачнём вырабляць сваю зброю»

3 Цяжка паранены 19-гадовы добраахвотнік з Беларусі

4 Ліст украінскага афіцэра маме расійскага танкіста, якога ён адпусціў жывым пад Дэбальцавам, стаў культавым у інтэрнэце

5 Блогеры знайшлі дачку Пуціна, яна жыве пад іншым прозвішчам ФОТАФАКТ

6 Былы міністр замежных справаў Беларусі назваў Меркель «лахудрай»

7 У беларускі закон аб ваенным становішчы ўнесеныя папраўкі

8 Камандзір баевікоў ДНР Гіві прымусіў палонных украінцаў з'есці свае шаўроны

9 Міліцыя забрала з трасы голую жанчыну і яе 10-гадовую дачку

10 Мінск на здымках жаўнераў вермахта

# Аддушына для Лукашэнкі: што засталося па-за ўвагай тэлебачання на прэс-канферэнцыі

Ад «Нашай Нівы» ў Палацы Незалежнасці прысутнічаў **Зміцер Панкавец.**



БЕЛТА

Менш за ўсё хочацца апісваць і аналізаваць тое, што гаварыў падчас сустрэчы кіраўнік Беларусі. За 20 гадоў журналісты настолькі дакладна вывучылі яго, што здольныя загадзя прадбачыць адказы.

Прадухіляючы пэўныя інсінуацыі, зазначу: ніхто не просіць загадзя пытанні на нейкую «прамадэрацыю», не ўзгадняе іх. Канечне, гэта шоу, спектакль аднаго акцёра, але поўны імправізацый.

Перш за ўсё ўвагу прыцягнула тое, што прэс-канферэнцыя праходзіла ў Палацы Незалежнасці. Недзяржаўных журналістаў упершыню пусцілі ў гэтую «святая святых» сённяшняй улады. Аплот незалежнасці, як акрэсліў гэта сам Лукашэнка.

Запускалі не з галоўнага ўваходу, а збоку. Галоўны ўваход — толькі для аднаго чалавека. Спачатку на своеасаблівай прахадной правяралі пашпарты, і мы праходзілі першы металашукальнік. Выходзіш на вуліцу, ідзеш праз будучы сад — здаецца, яго заклалі кіраўнікі дзяржаваў СНД, — усе маладыя дрэўцы акуратна падвязаныя. А ўжо потым заходзіш уласна ў палац. Дзе цябе чакае другі металашукальнік. Там жа прадстаўнік службы аховы праводзіць асабісты надгляд, абавязкова просяць уключыць ноўтбук. Тлумачаць гэта тым, што раптам там толькі корпус ад ноўтбука, а ты туды выбухоўку засунуў.

Пасля гэтага ўжо простая дарога ў фае палаца. Аграмадныя крышталёвыя жырандолі, доўгія залы з калонамі, высокія столі, пазалочаныя ўпрыгожанні на лесвіцах і дзвярах. Усё па-багатаму. У падлогу, са складанымі геаметрычнымі фігурамі, можна ўглядацца як у люстэрка. З дрэва зробленыя толькі парэнчы лесвіцы. Дзенідзе ў вазонах стаяць кветкі, але яны здаюцца лішнімі ў гэтым мармуровым царстве. Кветкам цяжка сярод каменя і металу.

Службы аховы прэзідэнта асабліва не заўважна, нават калі яны дзесьці ёсць. Журналістаў не змясцілі ў нейкае «гета», давалі вольна хадзіць па Палацы, не адбіралі і тэлефонаў з фотаапаратамі. Рабі сэлфі, пасці ў «Фэйсбук» і «Інстаграм», рабі што хочаш.



Кубачкі з гербам у Палацы Незалежнасці.

У фае — невялікая выстава карцін. Гэта тое, што дарылі Лукашэнку кіраўнікі іншых краін (Венесуэлы, Азербайджана, Эквадора, В'етнама) і расійскія губернатары. Маю ўвагу прыцягваюць мардоўскія распісныя талеркі.

На сценах вісяць каваныя вывявы Нацыянальнай бібліятэкі, Опернага тэатра, Музея Вялікай Айчыннай вайны. А вось надпісаў унутры па-беларуску як ні шукаў, так і не знайшоў.

Журналістаў частавалі цукеркамі ад «Камунаркі» і печывам. Кубкі таксама адмысловыя — з выявай дзяржаўнага герба.

Адразу ўсіхнюю ўвагу звярнула, што журналістам гэтым разам указалі вызначаныя месцы ў зале, а не далі садзіцца адвольна. У першы шэраг з недзяржаўных пасадзілі tut.by, «Прессбол», «Экономическую газету». У другі шэраг — «Нашу Ніву» і «Народную волю». Большасці прадстаўнікоў раёнак далі нязручныя месцы на галёрцы.

Справа ад Лукашэнкі месца занялі чыноўнікі і галоўныя рэдактары найбуйнейшых дзяржаўных газет. Звярнула ўвагу, што чыноўнікаў па месцах размяркоўваў Аляксандр Радзькоў, які нядаўна стаў памочнікам прэзідэнта, узначаліў ягоную канцылярыю. Менавіта Радзькоў прынёс запіску Лукашэнку аб эфекце ягоных няўдалых словаў аб рэструктурызацыі пазыкі (старонка 5). У гэты момант Лукашэнка адказваў на пытанне партала tut.by. Было відаць, што думкі ягоныя адразу перанесліся ў зусім іншае месца.

За чыноўнікамі ж назіраць было даволі цікава. Не заўсёды атрымліваецца іх бачыць у такой канцэнтрацыі разам. Вось, напрыклад, міністр замежных справаў Уладзімір Макей амаль увесь час сядзеў у паўабарота, з вялікай цікавасцю разглядаў людзей і, здаецца, нічога не пазначаў у блакноце.

Новага кіраўніка Адміністрацыі Аляксандра Косінца Лукашэнка двойчы назваў «гарачым». Косінец аднойчы паспрабаваў аспрэчыць, што не такі ён ужо і гарачы.

Пра віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашку Лукашэнка сказаў, што ён мае складаны характар, няўжыўчывы. Сямашка, калі падымаўся, стараўся не глядзець нікому ў вочы, а хуценька адрапартоўваць патрэбнае. У адзін з такіх пад'ёмаў было забаўна назіраць, як мікрафон Уладзіміру Ільічу падтрымлівае новапрызначаны намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Ігар Бузоўскі.

Віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі, мабыць, рызыкуе атрымаць рэнамэ самае стыльнага беларускага чыноўніка. Ягонае адзенне адразу выбіваецца сярод шэрых ці цёмна-сініх касцюмаў калег. Стараецца не надта адставаць ад яго і старшыня Нацбанку Калаўр, якога Лукашэнка называе проста «Павел».

А вось крэатура спецслужбаў, віцэ-прэм'ерка ў сацыяльных пытаннях Наталля Качанава, адмоўчвалася.

Міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна вылучалася правільнай рускай мовай.

А міністр абароны Андрэй Раўкоў, аказалася, ходзіць у акулярах, хаця здымкаў такіх не было раней.

Што тычыцца самой залы прэс-канферэнцыі, то яна прыемна ўразіла сваёй светласцю. У той жа Нацыянальнай бібліятэцы было даволі змрочна.

Месца Лукашэнкі — пад аграмадным гербам. Часам здавалася, што ён прымацаваны на нейкім велізарным тэнісным шарыку. Побач стаіць дзяржаўны сцяг.

Разам з Лукашэнкам на сцэне — ягоная прэс-сакратарка Наталля Эйсмант-Кірсанава. Яна папрасіла не ствараць чэргі каля мікрафонаў, а яшчэ, па магчымасці, не фоткаць кіраўніка дзяржавы на мабільнікі. Увогуле ж, яна пакінула па сабе ўражанне прафесіянала.

Сам Лукашэнка з'явіўся без спазнення. Роўна а 11-й. Не тое, што Пуцін, якога чакаюць гадзінамі. Пасля невялічкай прамовы ён стаў адказваць на пытанні. І гэтыя адказы доўжыліся 7 гадзінаў. Без пяці хвілін Фідэль Кастра, жартавалі ў інтэрнэце. Прыгожая афіцыянтка за гэты час, калі нічога не наблытаў, чатыры разы мяняла кубачак з чаем, што стаяў перад Лукашэнкам. Журналісты маглі выйсці ў прыбіральню. Кіраўнік дзяржавы — не.

Калі Лукашэнка казаў, што «я пастараюся караценька адказаць на пытанне», то гэта магло заняць дванаццаць хвілін.

Адказы Лукашэнкі былі і вашым і нашым. Кожны пачуў тое, што хацеў ці не хацеў. «Беларусь — частка «рускага свету»? Забудзьце!» — сказаў ён. «Не было такой дзяржавы, а цяпер ёсць!» А праз нейкі час гаварыў, што «мы — рускія людзі». І такіх прыкладаў можна назбіраць нямала.

Напрыканцы падалося, што Лукашэнку няпроста было спускацца з невысокай сцэны. Магчыма, гэта след нядаўняй аперацыі на калене. А магчыма, яму проста хацелася падаўжэй паслухаць апладысменты, як таму акцёру ў тэатры. Мне здалося, што для аўтарытарных кіраўнікоў такія сустрэчы — вялікая аддушына. Яны не часта сутыкаюцца з тымі, хто з імі спрачаецца, хто не баіцца данесці альтэрнатыўны пункт гледжання. У еўрапейскіх краінах для гэтага ёсць парламент, у Беларусі — адна толькі прэс-канферэнцыя раз на год.

**Каментар**

## Што хацеў данесці Лукашэнка

Расійскія журналісты задавалі Лукашэнку пытанні з падвохам: аб пранкеру Вавану і пра заоблачна высокія цэны ў Беларусі.

Незалежныя беларускія журналісты, наадварот, дэманстравалі імкненне да кансалідацыі.

У падтэксце многіх іх пытанняў быў непакой за незалежнасць Беларусі і паўтарэнне падзей на Данбасе ў беларускім варыянце. Нават сам Лукашэнка быў здзіўлены такім «настроем на кансалідацыю». Пры гэтым журналісты мякка падняолі шматлікія вострыя тэмы: наяўнасць палітвязняў, адраджэнне беларускай мовы, эканамічныя рэформы, стварэнне беларускамоўнага тэлебачання, барацьбу з ячэйкамі чарнасоценцаў, парушэнні грамадзянскіх правоў.

Што асноўнага прагучала і чаго не прагучала ў рэкордным — 7 гадзін і 7 хвілін — выступленні Аляксандра Лукашэнкі?

1) «Беларусь — частка Расіі, частка «рускага свету»? Забудзьце». Быў дадзены недвухсэнсоўны намёк, што наша дзяржава інтэнсіўна рыхтуецца да адпору любой магчымай агрэсіі.

Аж да таго, што праз пару месяцаў краіна пачне выраб некаторых відаў сучаснай зброі па поўным цыкле, тады як раней атрымлівала іх з Расіі.

2) Пры гэтым эканамічная палітыка застаецца нязменнай. Задача моманту — дыверсіфікацыя экспарту. Але неяк убаку засталася тэма таго, што краіна на 100% залежыць ад Расіі ў энерганосьбітах, і альтэрнатыўных спосабаў іх пастаўкі няма.

Украіна то вытрымлівае без расійскага газу. А Беларусь як бы прайшла такое выпрабаванне?

3) Аляксандр Лукашэнка быў прыязны да грамадзянскай супольнасці. Агрэсіі, варожасці не гучала. Не рабіце Майдану — а ў астатнім рабіце, што хочаце.

4) Геапалітычна Лукашэнка абяцаў захаваць ранейшы баланс: Беларусь выконвае ўсе саюзніцкія абавязанні перад Расіяй, уваходзіць у створаныя Расіяй саюзы, але пры гэтым не дапусціць узмацнення расійскага ўплыву ўнутры краіны. Захаду Лукашэнка не давярае, але хоча ў ідэале мець нармальныя з ім адносіны.

«Таму, першае — нельга шарахацца, ні ў жыцці, ні калі датычыць дзяржавы», — сказаў Аляксандр Лукашэнка на пачатку прэс-канферэнцыі.

«Шараханняў ад Расіі на Захад ніколі не будзе», — ужыў ён тое самае слова пасля.

«Шарахацца» — гэта экспрэсіўнае размоўнае слова. Яно азначае «кідацца ўбок ці назад ад нечаканасці ці сполаху».

Лукашэнка хоча не дапускаць такой сітуацыі, каб Захад лічыў Лукашэнку бальным, у параўнанні з Расіяй, злом. І не дапускаць сітуацыі, каб Захад не змагаўся за Беларусь у выпадку пагрозы з Усходу. Выразна прагучала таксама думка, што Беларусь была б радая атрымаць крэдыт МВФ, бо ён «самы выгадны».

5) Канца свайго кіравання Аляксандр Лукашэнка не прадбачыць і пераходу да дэмакратыі не прагназуе.

«Новага для мяне ў прэзідэнцтве ўжо не будзе. Я ўжо ўсё бачыў. За 20 гадоў я ўжо ўсё зразумеў, усё памацаў. Я не развіваюся. Але сам я сысці не маю права. Калі рухне краіна? Адзіная падстава для прэзідэнта не ісці на выбары — слабы розум, хвароба. Пра гэта блізкія павінны будуць сказаць».

Такім чынам, адназначна незалежнасць адназначна без дэмакратыі.

Але народ, грамадства, незалежныя СМІ маюць права падаваць петыцыі прэзідэнту. Яны будуць прыняты і разгледжаны. Што і адбывалася цягам сямі гадзін. Але не больш.

**Андрэй Дынько**

# «Сустракаў беларусаў на баку Кіева — больш яны ні з кім не сустрэнуцца»

Беларускі спецназавец **ваюе за ДНР**.

У снежні ў інтэрнэце з'явілася відэа, на якім малады чалавек у форме расказаў, як ён адправіўся з Беларусі ваяваць на баку сепаратыстаў. «Дзякуючы вопыту, які мне даў мой камандзір, старшы лейтэнант Уладзімір Карачун (служыў я ў 5-й брыгадзе спецыяльнага прызначэння горада Мар'іна Горка — не хаваю)», — заявіў тады хлопец.

«Наша Ніва» знайшла гэтага спецназаўца і пагаварыла з ім. Яго імя — Сяргей. Яму 23 гады. Ваюе ў падраздзяленні Матаролы (палявы камандзір ДНР Арсен Паўлаў). Нядаўна ён ажаніўся ў Данецку з 18-гадовай Дар'яй.

**«Наша Ніва»: Не страшна было пад бамбёжкамі жаніцца?**

**Сяргей:** А гэта рамантычна, хаха. Не, браце, не страшна.

**«НН»: На фотаздымках бачыў тваю жонку ў вайсковай форме. Таксама ваюе?**

**С:** Так, ваюе пад маім кіраўніцтвам. Я камандзір яе узвода.

**«НН»: Даўно ў Данецку?**

**С:** З чэрвеня.

**«НН»: Што падштурхнула ехаць?**

**С:** Ну а ты як думаеш? Канечне, смерць дзяцей і матак, бабуль і дзядуль. Зачапіла надта моцна.

**«НН»: Ты служыў у Мар'інай Горцы. Нехта са спецназаўцаў з табой паехаў у Данецк? Беларусаў там шмат?**

**С:** Ты як КДБ. Ніхто са мной не паехаў — я адзін. У нас толькі я і яшчэ адзін таварыш па службе: хто і што, не магу сказаць. А ў цэлым беларусаў у ДНР адзінкі.

**«НН»: З былымі таварышамі па службе падтрымліваеш кантакты? Як яны ставяцца да твайго ўчынку?**

**С:** Падтрымліваю сувязі. Нехта кажа: «Уважуха, брат». А іншыя: «Поскудзь ёб...я, хутчэй бы ты здох». Што тут скажаш: дэградуюць прыдуркі — менш трэба ў інтэрнэце сядзець.

**«НН»: Ведаеш, што КДБ адсочвае тых, хто ваюе ва Украіне? Да тваіх родных звярталіся?**

**С:** Я ў курсе, але не звярталіся. Бацькі і не ведалі, што я паехаў. Даведаліся толькі ў лістападзе. І што ўжо зробіш, калі я тут.

**«НН»: Але разумееш, што ў Беларусі цябе могуць арыштаваць за наёмніцтва?**

**С:** Ведаю і разумею. Бацька зменіць законы. У будучым, вось паглядзіш.

**«НН»: Думаеш вяртацца?**

**С:** Неа.

**«НН»: Грамадзянства расійскае даюць?**

**С:** Ніхто нічога не дае. І тым больш расійскае — ДНР яшчэ мо і можна зрабіць, але не расійскае.

**«НН»: У цябе раненні былі?**

**С:** Так, 3 раненні (два кулявыя і адно асколачнае) і 4 кантузіі. І цяпер я паранены — на бальнічным. Пры штурме новага тэрмінала ў аэрапорце параніла дзён 10 таму [размова была 28 студзеня].

**«НН»: Ведаеш, што беларусы ваююць і на баку ўкраінцаў? Сутыкаўся з імі?**

**С:** Ведаю, і надта шмат такой паскудзі там. Так, сустракаўся, але больш яны ні з кім не сустрэнуцца, ха-ха.

**«НН»: Забілі?**

**С:** Не важна.


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

**«НН»: На форме ў цябе ўзнагароды. За што?**

**С:** Баявыя.

**«НН»: А канкрэтней?**

**С:** За баявыя — гэтага мала?

**«НН»: Іншы беларус, які ваяваў на баку ДНР, сказаў, што грошы атрымлівае за службу.**

**С:** Ну, калі ён атрымлівае, то сцяг яму ў рукі. Адкуль тут грошы? Ніхто нічога не атрымлівае.

**«НН»: Кіеў заяўляе пра пераход расійскіх войскаў. Шмат расійскіх салдат сярод вас?**

**С:** Ха-ха, якія войскі. Калі б яны былі, то мы яшчэ ў ліпені святкавалі б дзень перамогі ў Кіеве.

**«НН»: Доўга яшчэ пратрымаецеся, калі расійскія войскі не ўвойдуць?**

**С:** Дык яны нам і не патрэбныя. У нас усё цудоўна.

**«НН»: Калі ў Данецк ехаў, разлічваў, колькі ўсё можа цягнуцца?**

**С:** Я ведаў і ведаю, што вайна будзе ісці доўга.

**Сяргей Макарэвіч**

**Могуць пасадзіць**

Удзел ва ўзброеных канфліктах на тэрыторыі замежнай дзяржавы, ваенных дзеяннях асоб, якія не ўваходзяць у склад узброеных сіл ваюючых бакоў і якія дзейнічаюць у мэтах атрымання матэрыяльнага ўзнагароджання без упаўнаважання дзяржавы, грамадзянінам якой асоба з'яўляецца альбо на тэрыторыі якой пастаянна пражывае (наёмніцтва) — караецца пазбаўленнем свабоды на тэрмін ад 3 да 7 гадоў з канфіскацыяй маёмасці альбо без канфіскацыі (артыкул 133 Крымінальнага кодэкса РБ).

Вярбоўка, навучанне, фінансаванне, іншае матэрыяльнае забеспячэнне і выкарыстанне наёмнікаў для ўдзелу ва ўзброеных канфліктах альбо ваенных дзеяннях — караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін ад 7 да 15 гадоў (артыкул 132 КК РБ).

## Пад Станіцай Луганскай цяжка паранены 19-гадовы добраахвотнік з Беларусі

Хлопец **ваюе за Украіну**.

Паранены баец служыць у спецпадраздзяленні патрульнай службы міліцыі асаблівага прызначэння «Тарнада». Пазыўны байца — Маджахед.

Як ён расказаў журналістам, у армію ён пайшоў пасля таго, як Расія заняла Крым. Хлопец 2 гады жыў у Севастопалі, таму балюча ўспрыняў гэтыя падзеі.

Па ягоных словах, «спецпадраздзяленне прайшло ад Пяскоў, праз Ілавайск і цяпер вядзе актыўныя баявыя дзеянні ў Станіцы Луганскай. Там [супраць нас ваюе] шмат рускіх, данскіх казакоў, ёсць чачэнцы».

«Мы вызвалялі гарады і вёскі Луганскай вобласці, аднаўлялі ўкраінскую ўладу на вызваленых тэрыторыях», — расказвае Маджахед.

Як арганізаваны побыт байцоў? «Забяспечвае заўсёды наш камбат, сілкаваліся 3 разы на дзень. Праўда, на баявых заданнях мы фізічна не паспявалі есці, бо поспех аперацыі важнейшы, чым голад».

«Раней былі людзі, якія пакідалі роту, а цяпер нашы шэрагі толькі папаўняюцца», — сцвярджае баец.

Паранілі яго ў Станіцы Луганскай, падчас студзеньскага наступу расійскіх сілаў. «Быў гарачы бой, нас накрылі «Грады», потым цяжкая тэхніка і пяхота, — апавядае хлопец. — Мяне паранілі 19 студзеня, прывезлі на лячэнне ў Днепрапятроўск. Спачатку балела ўсё цела, цяпер ужо нашмат лепш», — кажа ён.



«Наша Ніва» звязалася з Маджахедам. Даніла, як сябе называе хлопец, адмовіўся ад інтэрв'ю. «Не трэба. Я ж не зорка, а салдат. Я лічу за лепшае дзейнічаць, а не гаварыць. Я хутка выпісваюся і зноў на фронт. Усё, што магу сказаць», — заявіў ён.

Даніла пацвердзіў, што мае беларускае грамадзянства. Між іншым, у Берасці ён вядомы як рэп-спявак Deni Mad.

Як можна меркаваць, супастаўляючы наяўныя звесткі, за незалежнасць Украіны ў Данбасе ваюе прынамсі некалькі дзясяткаў беларусаў.

Расійскія сілы з 13 студзеня распачалі маштабныя наступальныя дзеянні. Да 22 студзеня ім удалося заняць руіны Данецкага аэрапорта. У канцы студзеня яны прарвалі ўкраінскую абарону каля Дэбальцава. У той жа час украінцам удалося стрымаць праціўніка ў раёнах Марыупаля і Шчасця.

**СГ, СМ**

Фотафакт



**Яшчэ адзін спецназавец ваюе за ДНР**

21-гадовы беларус Дзмітрый служыў у 5-й брыгадзе спецыяльнага прызначэння ў Мар'інай Горцы. Дэмабілізаваўся восенню 2013-га. Ваюе ў батальёне «Спарта» на баку сепаратыстаў. Па словах знаёмага Дзмітрыя, ён паходзіць з Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці, дзе і жывуць яго бацькі.

## Камандзір баевікоў ДНР Гіві прымусіў палонных украінцаў з'есці свае шаўроны

У інтэрнэце з'явілася відэа, на якім двідаць, як бесчалавечна «апалчэнцы» абыходзяцца з палоннымі. На ім камандзір батальёна «Самалі» з пазыўным Гіві спачатку ставіць украінскіх ваеннапалонных на калені, а потым прымушае з'есці шаўроны.

Паказальна, што ў кадры некалькі разоў з'яўляюцца мікрафоны тэлеканалаў «Лайфньюз» і «Расія». Пасля Гіві абвінавачвае аднаго з палонных — падпалкоўніка Сяргея Кузьміных — у разбурэннях навокал. Даведаўшыся, што ўкраінскі вайсковец з Жытоміра, Гіві абяцае дайсці датуль і ўтварыць тое ж, што адбываецца на Данбасе.

Затым палонным завязваюць вочы і запіхваюць іх у машыну.

«Лахі педальныя, вы патрапілі ў пекла!» — крычыць на развітанне адзін з дээнэраўцаў.

34-гадовы Гіві — даўно вядомы ў медыя персанаж. Сапраўднае імя яго — Міхаіл Сяргеевіч Талстых. Свой пазыўны ён узяў у гонар дзядулі-грузіна. Пасля баёў за Ілавайск атрымаў званне падпалкоўніка ДНР.

У кастрычніку мінулага года Гіві звярнуўся да лідара партыі ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага з просьбай даць «апалчэнню» аўтамабілі для перавозкі параненых. Неўзабаве Жырыноўскі адправіў партыю аўтамабіляў «Ніва» тэрарыстам.

**Улад Швядовіч**

# Пачаўся продаж «Пежо» беларускай зборкі

На чарзе — **«Сітраен»**.

У Беларусі пачалі прадаваць аўтамабілі маркі Peugeot і Citroen, сабраныя на заводзе «Юнісон» пад Мінскам (у Абчаку).

Цяпер дылерскія цэнтры могуць прапанаваць пакупнікам дзве мадэлі: седан Peugeot 301 і красовер Peugeot 3008.

Peugeot 301 прадстаўлены ў камплектацыі Access, Active ці Allure з бензінавымі рухавікамі 1,2 ці 1,6 л і аўтаматычнай ці механічнай КПП. Цэны на аўтамабіль пачынаюцца ад 182 мільёнаў рублёў.

Peugeot 3008 можна набыць у камплектацыі Active ці Allure.





Іх аснашчаюць бензінавымі рухавікамі 1.6 VTi (120 к.с.) ці 1.6 THP (150 к.с.) і аўтаматычнай ці механічнай КПП. Мінімальная цана — 314 мільёнаў рублёў.

У сувязі з адкрыццём уласнай вытворчасці дылеры Peugeot, магчыма, цалкам пяройдуць на аўтамабілі беларускай зборкі, і пакупнік не зможа выбраць паміж машынай беларускай і замежнай зборкі.

Пра гэта паведаміў дырэктар па маркетынгу СП «Аўта Груп» Валянцін Трыгорлаў. Ён таксама расказаў пра меркаваныя аб'ёмы вытворчасці: «У 2014 годзе мы планавалі выпусціць каля 2500 аўтамабіляў. Аднак сітуацыя на рынку змянілася, асабліва ўлічваючы тую колькасць машын, прывезеных беларусамі з Расіі. Праз два-тры месяцы рынак дасць больш дакладныя лічбы, аднак зразумела, што аўтамабіляў будзе зроблена менш», — сказаў Трыгорлаў.

Ужо ў сакавіку плануецца распачаць продаж Peugeot Partner і Peugeot 508, а таксама Citroën C-Elysee і Citroën Berlingo беларускай зборкі.

Пакуль што аўтамабілі будуць збірацца выключна для беларускага рынку, аднак ужо абмяркоўваецца магчымасць збіраць Peugeot і Citroen для Расіі.

**Кірыла Хілько**

**Якія аўтамабілі выпускалі на заводзе ў Абчаку?**

1997—2000 — мінівэн «Форд Транзіт» і легкавік «Форд Эскорт» (сабрана каля 2300 аўто).

2004 — мікрааўтобус «Люблін-3» (каля 1000 аўто).

2006—2011 — легкавік «Саманд» (больш за 1000 аўто), вытворчасць спынена праз санкцыі супраць Ірана.

З 2013 — мікрааўтобус на базе «Форд Транзіт».

З 2014 — легкавік «Опель Корса»



Аляксей Ваганаў з дачкой Ганнай (злева), кіраўніцай сямейнага гатэля

**Мільянер Ваганаў**

Беларускі ўласнік завода ў Абчаку — 54-гадовы Аляксей Ваганаў. Былы фізік, ён стварыў разгалінаваную бізнэс-імперыю: яму належаць будаўнічая кампанія «Лада», якая ўзводзіць жылыя кварталы, гатэлі і гандлёва-забаўляльныя цэнтры, аўтамабільны «Юнісон», а таксама «8 канал».

У пачатку 2000-х Ваганаў быў дэпутатам палаты прадстаўнікоў. У рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсменаў Беларусі ён займае 14-е месца.

# Беларус стаў галоўным нафтатрэйдарам Украіны

**Сяргей Фяцьковіч** перапрадае бензін з Наваполацка і Мазыра.

Украінскі рынак паліва толькі на 20% забяспечваецца ўнутраным прадуктам, астатні бензін і дызельнае паліва завозяцца з-за мяжы. Каля паловы рынку кантралююць беларускія вытворцы.

Усё актыўней пра сябе заяўляе сетка «Народна», якая ўключае ў сябе 33 запраўкі, раскіданыя па Цэнтральнай Украіне і Закарпацці. Цяпер АЗС пачынаюць працаваць яшчэ і з газам.

«Народна» ўваходзіць у склад групы кампаній «Палтэкс», якая, у сваю чаргу, звязаная з шатландскім афшорам «Ізалайн Сейлз Л.П».

Украінскія СМІ называюць «каардынатарам» кампаніі грамадзяніна Беларусі Сяргея Фяцьковіча. Ён выхадзец з Полаччыны, раней працаваў на «Нафтане». Старыя сувязі дапамагаюць яму арганізоўваць пастаўкі нафтапрадуктаў ва Украіну.

«Народная аўтазапраўка» рэалізуе нафтапрадукты выключна высокай якасці, атрыманыя ад нафтаперапрацоўчых заводаў Беларусі ў Мазыры і Наваполацку», — паведамляецца на сайце кампаніі. Для Украіны, дзе кантроль за якасцю паліва не наладжаны, беларускі бензін — гарантыя якасці.

А летась Фяцьковіч выйшаў на латвійскі рынак, уклаўшы каля $1 мільёна ў мясцовую кампанію «SF Property», якая займаецца нерухомасцю.

**Ягор Марціновіч**

Літр беларускага бензіна АІ-95 у сетцы «Народна» каштуе 16070 беларускіх рублёў (пры пераліку па афіцыйным курсе). У Беларусі бензін АІ-95 прадаецца па 11900 рублёў.

За студзень-лістапад 2014 Беларусь імпартавала ва Украіну нафтапрадуктаў больш чым на $3 мільярды.

**У плюсе**

## Як я трымаў грошы пад 478% гадавых

Хачу пахваліцца. Сёння забіраў свой дэпазіт, грошы ляжалі ў банку пад 480% гадавых. Думаеце, такое немагчыма? Толькі не ў Беларусі!

Калі ў канцы снежня здарыўся крызіс, я якраз паспеў зняць рублёвы дэпазіт і купіць даляры. Фактычна ў апошні вагон заскочыў.

Пасля Ермакова прыдумала сваю 30%-ную камісію, але афіцыйны курс заставаўся ранейшым! Тады я вырашыў пагуляцца з банкамі яшчэ раз. Здаў даляры (тады ўжо прымалі амаль па 14 тысяч), а атрыманыя рублі панёс у банк. Адразу некалькі банкаў тады прапаноўвалі ўклады, у якіх даходнасць залежыць ад велічыні дэвальвацыі. Там складаная формула, але для кліента найвыгаднейшы было класці на мінімальны тэрмін.

У «Беларусбанку», напрыклад, на тры месяцы, а «Хоўм Крэдыт Банк» тады якраз прапаноўваў дэпазіт на месяц. Стаўка — велічыня дэвальвацыі, памножаная на 12, ну і яшчэ 6% зверху.

Ці рызыкаваў я? Канечне. Бо калі б Ермакова і кампанія марудзілі, як у 2011-м, афіцыйны курс мог бы асабліва не змяніцца. Але Нацбанк усё адно намякаў, што збіраецца адмяняць валютную камісію.

У выніку рызыка апраўдала сябе. Паклаў 70 мільёнаў рублёў — забраў амаль 100 мільёнаў. 30 мільёнаў чыстага навару за месяц!

**Даслаў Алег, Мінск**

# Неасцярожныя выказванні Лукашэнкі абвалілі каціроўкі беларускіх аблігацый

Ён **пераблытаў** «рэструктурызацыю» і «рэфінансаванне».

Паніку на біржах выклікала заўвага Аляксандра Лукашэнкі падчас прэс-канферэнцыі. Ён заявіў, што Беларусь будзе дабівацца рэструктурызацыі сваёй запазычанасці, бо на 2015-ы прыпадае пік выплат па замежных пазыках.

«Рэструктурызацыя» доўга сведчыць пра тое, што краіна стаіць на мяжы дэфолту. Напрыклад, Грэцыя дамовілася з трымальнікамі аблігацый, што частку пазыкаў вяртаць не будзе, каб утрымацца на плыву.

Пасля заявы кіраўніка Беларусі каціроўкі беларускіх бондаў абваліліся на 20—30% за гадзіну.

Гэты факт не застаўся без увагі беларускіх фінансістаў, і Аляксандру Лукашэнку падалі запіску з просьбай выправіцца.

Ён вярнуўся да тэмы запазычанасці і ўдакладніў, што меў на ўвазе не рэструктурызацыю, а рэфінансаванне. Беларусь будзе старанна расплачвацца па даўгах.

**Сяргей Гезгала**




Каціроўкі беларускіх сямігадовых аблігацый упалі, так і не аднавіліся, нават калі Лукашэнка выправіўся.

**Сціслa**

**Беларусь цішком пазычыла ў Кітая $225 мільёнаў**

Па стане на пачатак года знешні дзяржаўны доўг Беларусі дасягнуў $12,6 мільярда. За снежань сума павялічылася на $263 мільёны. Адкуль узяліся гэтыя грошы? На $224 мільёны выраслі крэдытныя абавязкі перад Кітаем, астатняя сума набегла за кошт росту курса даляра.

**Антырэкорднае сальда**

У снежні 2014 сальда замежнага гандлю таварамі склала -$1,37 мільярда. У параўнанні з папярэднімі месяцамі лічба пагоршала ў чатыры разы. Горшай сітуацыя была толькі ў лістападзе 2010-га, калі ўлада нарошчвала заробкі перад прэзідэнцкімі выбарамі.

**План інфляцыі — 16—20%**

Нацбанк вызначыў планавы ўзровень інфляцыі на год на ўзроўні 18% з адхіленнем у 2%.

**Пуцін рэзка знізіў цэны на гарэлку**

Мінімальная рознічная цана на гарэлку ў Расіі паменшала з 50 тысяч да 42 тысяч беларускіх рублёў. У даляравым эквіваленце за год цана апусцілася з $7 да $2,7. Зніжэнне тлумачыцца «барацьбой з кантрафактам».

**Камунальныя паслугі падаражэлі на 20—40%**

З 1 лютага ў Мінску рэзка павялічыліся тарыфы на камунальныя паслугі.

Выдаткі мінчан на тэхабслугоўванне павялічацца на 33,5%, да 947,1 рубля за квадратны метр. Адліччэнні на капрамонт — на 39,6%, да 837,5 рубля за метр.

Кубаметр вады з лютага будзе каштаваць 1435,8 рубля. Гэта на 21,4% больш, чым цяпер. Тарыф за каналізацыю вырасце на 24,7%, да 958,6 рубля за кубаметр.

**У Расіі заробак за год абрынуўся з $1000 да $540**

Заробак «чыстымі» за снежань 2014 склаў у Расіі $655 па тагачасным курсе. Аднак цяпер гэта ўсяго $540. І гэта пры тым, што заробкі за снежань традыцыйна завышаныя праз гадавыя прэміі. Найхутчэй, заробак «чыстымі» ў студзені 2015 складзе каля $420.

**ЯМ**

# «Пакуль мы будзем рухацца, жыццё нас будзе слухацца»

Феномен! Ёсць у «Нашай Нівы» адзін чытач, які часта звоніць у Рэдакцыю і гаворыць вершамі. Вось не паверыце! Як нейкі старадаўні скальд! Бывае, паўгадзіны гаворым — а ён усё рыфмамі. Як мы здзівіліся, калі аказалася, што **Анатоль Кісель** з вёскі Обчын Любанскага раёна — інвалід першай групы, прыкаваны да ложка чалавек. А пры гэтым музыка, філосаф. Здаровым людзям у яго можна вучыцца радасці.



Анатоль выжыў, але застаўся інвалідам

НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

Анатоль Кісель ля сваёй хаты.

Страціўшы здароўе, Анатоль Кісель не згубіў пачуцця ўласнага гонару і, што не менш важна, — гумару.

Першы раз ён патэлефанаваў нам у Рэдакцыі ў змрочны час — у 2008-м, калі «Наша Ніва» была забароненая да падпіскі. Нам было не да жартаў, а тут звоніць чалавек і барытонам байкамі з намі гутарыць...

Горкі — такая вёска-вуліца, прыдатак Обчына, доўгая, як кішка. Вёска неадназначная — калі ў Обчыне ўсё даволі «стабільна», то тут вясковае жыццё ва ўсіх яго праявах: паваленыя платы побач з моцнымі цаглянымі мурамі, халупы побач з катэджыкамі. На адным падворку — не стары яшчэ «Опель». На другім — шкілет ад ровара. Карацей, уся палітра жыцця.

## Афарызмы Кісяля

**Пра жыццё і яго сэнс**

Тады жыццё нам сцеле пухам,
Калі моцныя мы духам.

Не трэба багацця
і вялікага акладу,
Калі ты свайму жыццю не рады.

**Пра маршалаў нашай нацыі**

Што той далёкі бераг Нілу,
У нас ёсць свой, які нам мілы.
Скажу вам шчыра —
Васіль Быкаў,
Пальцам хто б у яго ні тыкаў,
Бацькаўшчыны сваёй лёс
Нёс ён шчыра, не растрос.

Каб наша не прапала —
Ёсць у нас Янка Купала.

**Пра чыноўнікаў-бюракратаў**

Наколькі сілы ёсць,
Здымайце маску важнасці
вялікай,
Тады жыццё пакіне шанец вам —
Не выглядаць бязлікай (-ім).

**Пра сябе**

Не здрадзіў сваёй душы
У гэтым шалашы.

**Для «Нашай Нівы»**

Я любіў і люблю «Ніву»,
Жадаю не здаць сябе да архіву.




НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

Канцэртная афіша і дыск з песняй на верш Барадуліна «Трэба дома бываць часцей»

Каб трапіць да Анатоля, даводзіцца прайсці добры кавалак дарогі праз Горкі. Ён жыве ва ўтульным цагляным доме. На падворку — чысціня, і гэта першае, што здзіўляе. Не гэтага чакаеш ад доўгі час пазбаўленага фізічных магчымасцяў чалавека і яго старой матулі. Аднак такая ж чысціня і ў хаце, а сам Анатоль аказваецца бадзёрым і акуратным мужчынам сярэдніх гадоў. Яго маці, 78-гадовая Ева Цімафееўна, адразу ставіць чайнік, каб пачаставаць нас кавай, а сам Анатоль запрашае ў сваю «лабараторыю»: вялікі пакой са спецыяльнай рамай для фізічных практыкаванняў над ложкам, у куце — вялікая сістэма прафесійных калонак і гукарэжысёрскі пульт. Акрамя таго: гармонік, саксафон, піяніна...

Але самае дзіўнае і адметнае ў Анатоля Кісяля — гэта не нейкі музычны інструмент, а ягоная мова. Перасыпаная ўласнымі афарызмамі і прымаўкамі, палова з якіх прыдумляецца літаральна на хаду, яна першы час прымушае здзіўляцца і перапытваць. Тым больш, што самае простае пытанне можа выклікаць нечаканы вершаваны выбух: рыфма рыфму паганяе, і вось ужо замест звыклага «так» ці «не» атрымліваеш філасофскую параду. І ўжо і не ўяўляеш, што гэты сівы мужчына ў інвалідным вазку ўвогуле мог гаварыць інакш.

«Нарадзіўся я 58 гадоў таму ў Селішчы — цяпер гэтай вёскі ўжо няма, аб'ядналі з Обчынам», — распавядае Анатоль Кісель. Да музыкі пацягнуўся адразу. «З гармонікам нарадзіўся і не згубіўся, — смяецца ён. — Пачаў іграць, яшчэ з-за гармоніка не было мяне відаць».

Першыя гастролі прайшлі на адным з вясковых вяселляў — тады яшчэ трэцякласнік Кісель зарабіў тры рублі сабе і бутэльку гарэлкі бацьку. А хутка ўласны інструмент яму падараваў хросны бацька — і панеслася. «Ён падарыў мне мой лёс», — кажа Анатоль.

Скончыўшы обчынскую школу, Кісель паступіў у музычную вучэльню ў Маладзечне. Прычым пачынаў вучыцца на дырыжора, але ж потым пайшоў у армію, трапіў там у аркестр, і пасля службы скончыў вучэльню ўжо барабаншчыкам.

Пасля — праца ў музычнай школе ў Салігорску (гэты горад — маё першае каханне, кажа Анатоль), вандроўкі па ўсім Саюзе, некалькі гадоў жыцця ў Вільні. Але потым ён усё роўна вярнуўся ў сваю вёску. Папрацаваў у суседняй Любані ў музычнай школе, а потым стаў вольным музыкам: гастролі, вяселлі ...

«Не так важна, дзе жыць, як справе служыць», — канстатуе Анатоль.

У 33 гады ён ажаніўся. Выгадаваў дваіх дзяцей. Але ж праз 15 гадоў шлюбу яны з жонкай усё ж разышліся. Цяпер яна жыве на іншым канцы вёскі, у «лукашатніку» (так Кісель называе домікі мясцовага аграгарадка).

А потым здарылася бяда.

8 гадоў таму на Вялікдзень Анатоль ехаў па трасе на ровары і папаў пад машыну. «Знялі мяне з дыстанцыі, — кажа ён. — І пайшло маё выжыванне. Месяц у рэанімацыі, затым два гады пластам, склаўшы ласты».

Траўмы былі сур'ёзныя: разрыў спіннога нерва і параліч ніжняй паловы цела. На шчасце, Анатоль выжыў, але застаўся інвалідам — перасоўвацца можа толькі ў вазку. З той пары амаль няма гастроляў, і, адпаведна, вандровак. Хата, пенсія, фізічныя практыкаванні для рэабілітацыі. І, само сабой, музыка. Яна і дапамагае яму выжыць. Ён піша песні, сябры робяць аранжыроўкі. Але сам Анатоль кампазітарам сябе не лічыць: «Кампазітары — гэта Бетховен з Моцартам. А я — аўтар і выканаўца. Мне дастаткова».

Анатоль дэманструе свой гармонік, на канструяванне якога пайшло амаль 17 гадоў. Рабіць яго дапамагалі сябры з маладзечанскай музычнай школы, ён вельмі ім за гэта ўдзячны.

Кісель грае некалькі ўласных песень: «Польку-кісялянку» і «Дзяцінства». Апошняй ён асабліва ганарыцца: «Калі напісаў такую песню, то ўжо і паміраць не страшна». А потым уключае на мабільніку «мінус» да аднаго са сваіх трэкаў і падпявае. І на яго твары з'яўляецца такая асалода...

Чалавек-дзіва. Сяброў у яго няшмат. Дзеці ўжо дарослыя, жывуць у Мінску. Нехта іншы б даўно ўжо апусціў рукі, але не Кісель. Канечне, шмат чаго яму бракуе: «Колькі б я зрабіў цудоўных вандровак...» — уздыхае Анатоль, але ён не страціў нешта галоўнае, нешта такое, што можна назваць як заўгодна — мара ці ўнутраны стрыжань.

«Жыццё — вялікі цуд, толькі меней трэба наганяць праступ, — жартуе Анатоль. — А ўвогуле я шчаслівы. У мяне ўсё ёсць — я маленькая кісельфілармонія».

Нават смерці ён ужо не баіцца, ставіцца да яе па-філасофску: «Той, хто жыве ў страху, ніколі не будзе лятаць, як птаха». Баіцца толькі не паспець ажыццявіць свае планы. А іх хапае: запіс альбома, здымка відэа на адну з песень і выпуск невялікай кніжкі з уласнымі афарызмамі.

«Хочацца пакінуць памяць. Гады хутка ляцяць», — кажа Кісель.

«Канечне, каб машына была, то пагрузіў бы гэтую апаратуру, знайшоў бы людзей і паехаў гастраляваць, — дзеліцца марамі ён. — Машына — гэта крылы».

Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці, Анатоль не сумуе. Пераадольваць сябе, лёс, хваробы ён прывык.

«Пакуль мы будзем рухацца, жыццё нас будзе слухацца. Застацца сабой, пранесці праз усё жыццё светласць дум і ўзнёсласць мар, каб ветрык лёгкі дзьмуў у твар — гэта штодзённая праца», — кажа Кісель.

І гэтай працы ён не баіцца.

УШ

Калі вы можаце дапамагчы Анатолю ў здзяйсненні яго творчых планаў, звязацца з ім можна праз тэл. (029) 324-54-19 ці праз Рэдакцыю «Нашай Нівы».

# Экс-сенатар за кошт свайго прадпрыемства адрамантаваў «Таёту» на 300 мільёнаў

Тыя грошы з яго цяпер **спаганяюць праз суд.**

У 2012 годзе на трасе Мінск—Гродна адбылася гучная аварыя. Былы член савета рэспублікі, кіраўнік сельгаспрадпрыемства «Мажэйкава» Казімір Рахатка на працоўным джыпе «Таёта Лэнд Круззр» пратараніў невялічкі «Опель Астру». Прычым сітуацыя была такая: на пустой дарозе «Таёта» выехала на сустрэчную паласу.

У «Астры» ехалі шэсць чалавек. Кіроўца, яго жонка і 8-гадовая дачка, цешча і цесць, жончына сястра — усе трапілі ў бальніцу. 53-гадовы цесць у рэанімацыі памёр. Астатнія атрымалі пераломы рук і ног, у жонкі кіроўцы праблемы з хрыбтом.

Рахатка таксама папаў у бальніцу. Праўда, з меншымі траўмамі.

**Казімір Рахатка**

нарадзіўся ў верасні 1952 года. Па адукацыі ён інжынер-механік, эканаміст-менеджар. Узначальваў ЛРСУП «Мажэйкава». Член савета рэспублікі (2000–2008).

У 2003 у Акадэміі навук абараніў кандыдацкую дысертацыю «Рэгуляванне аграрных адносін ва ўмовах трансфармацыйнай эканомікі Рэспублікі Беларусь».

У 2010 быў членам ініцыятыўнай групы па вылучэнні Лукашэнкі кандыдатам у прэзідэнты.

Адразу загаварылі пра тое, што за краты Рахатка не адправіцца. Маўляў, такі чалавек... Так і выйшла.

На былога сенатара завялі крымінальную справу за парушэнне Правіл дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Але ў выніку ў канцы года расследаванне ціха спынілі. Тады гэты факт не афішаваўся. Як паведаміла нам прадстаўніца Следчага камітэта Юлія Ганчарова, віна абвінавачанага была даказана. Ён яе прызнаў. І было прынятае рашэнне спыніць справу «ў сувязі з актам амністыі». Падставамі сталі паважны ўзрост Рахаткі і тое, што злачынства здзейснена не наўмысна.

Але з часам узнікла новая калізія.

Казімір Рахатка рамонт працоўнага джыпа правёў за грошы свайго прадпрыемства. Раённы пракурор палічыў гэта незаконным. І падаў у суд — на кампенсацыю шкоды Лідскаму раённаму сельскагаспадарчаму унітарнаму прадпрыемству «Мажэйкава», якое шмат гадоў Рахатка і ўзначальваў.

Аказалася, што за рамонт «Таёты» «Мажэйкава» выплаціла 342 773 100 (!) рублёў. Гэта шалёныя грошы, тым больш для вёскі. На канец 2012 года гэта складала амаль $40 тысяч — цана новай машыны. Лідскі раённы суд



Візуальна «Таёту» Рахатцы надта не патрушчыла

GAIGROUND.BY

29 кастрычніка 2014 гэтую суму зменшыў удвая: Рахатку абавязалі выплаціць 170 мільёнаў. Але эксенатар палічыў і гэтую суму надта высокай — вырашыў абскарджваць.

«Я прасіў бы зменшыць кампенсацыю шкоды ў сувязі з тым, што 30 гадоў адпрацаваў на прадпрыемстве... Хуткасці я не перавысіў, проста выйшаў на левы бок руху і нешта здарылася па стане здароўя», — прасіў Рахатка на пасяджэнні абласнога суда 26 студзеня. І звяртаў увагу, што ўся сума — гэта рамонт аўто з улікам агульнай амартызацыі, а не толькі наступстваў аварыі. «Гэтаму джыпу ўжо 12 гадоў».

Вядома, што падчас рамонту салон джыпа абцягнулі скурай. «Бо сядушкі ўжо былі падраныя», — наракаў Рахатка.

Праўда, цяпер суду, каб вызначыць, якая сума пайшла на рамонт менавіта пашкоджанняў ад аварыі, трэба звяртацца да экспертаў.

«Хто будзе плаціць за экспертызу? — пытаўся суддзя. — Эксперт палец на палец не пакладзе без аплаты. Будзеце плаціць?»

«Не, не буду», — аднекваўся Рахатка.

«Мажэйкава» таксама адмовілася.

У выніку калегія суддзяў прыняла рашэнне прыпыніць справу і прызначыць экспертызу. А выдаткі па яе правядзенні пакуль ускласці на прадпрыемства.

Казімір Рахатка адмовіўся адказаць на пытанні журналіста «Нашай Нівы». Сказаў толькі, што пакінуў дырэктарства ў «Мажэйкаве» год назад. Не па сваім жаданні.

Сяргей Макарэвіч

«Мажэйкава»

«Мажэйкава» — адно з найбуйнейшых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў краіны. Там займаюцца гароднінай, жывёлагадоўляй, вытворчасцю гарэлкі.

У 2005 «Мажэйкава» стала пераможцам «Дажынак».

Праўда, у 2013 «Мажэйкава» перайшло ў катэгорыю стратных. Запазычанасць па крэдытах складала 88 мільярдаў рублёў.

Новы кіраўнік прадпрыемства — Пётр Роўба.

## Сенатара Кастагорава выпусцілі з турмы за 350 тысяч еўра



А пасля арышту **яго прадпрыемства збанкрутавала.**

Члена савета рэспублікі Віталя Кастагорава вінавацяцьва ўхіленні ад выплаты падаткаў.

«Падчас расследавання крымінальнай справы выяўлена, што Віталь Кастагораў, калі з'яўляўся дырэктарам і акцыянерам ЗАТ «Палітэкс», арганізаваў рэалізацыю таварна-матэрыяльных каштоўнасцей за наяўны разлік без адлюстравання звестак пра здзейсненыя фінансава-гаспадарчыя аперацыі ў бухгалтарскім і падатковым уліку прадпрыемства», — паведамілі парталу Tut.by ў Адміністрацыі прэзідэнта.

Шкода дзяржаве ацэньваецца больш чым у 1,33 мільярда рублёў. Кастагораў выплаціў суму шкоды ў трохразовым памеры (унесена 340 тысяч еўра і 15 тысяч долараў). 130 снежня сенатара выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Следства працягваецца.

Віталь Кастагораў нарадзіўся ў 1969 ва Украіне. Скончыў Калінінградскае вышэйшае інжынернае вучылішча. У 1997–1998 — намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях, а з 1998 — дырэктар «Палітэкса».

Абраны членам савета рэспублікі пятага склікання. У ліпені 2014 пазбаўлены дэпутацкай недатыкальнасці.

«Палітэкс» быў адным з найбуйнейшых вытворцаў нятканых матэрыялаў для тэкстыльнай, лёгкай, мэблевай, аўтамабільнай прамысловасці, дарожнага будаўніцтва, напаўняльнікаў для адзення. Праўда, цяпер прадпрыемства аб'явілі банкрутам. Праблемы пачаліся пасля арышту былога дырэктара.

Кастусь Матушыч

## Сціспа

### Мужчына падарваў сябе ў Бабруйску

Здарэнне адбылося 1 лютага каля 21:00. 59-гадовы мужчына зайшоў нападпітку ў краму, дзе набыў гарэлку. Там жа і адпіў. А праз некалькі хвілін за крамай падарваў сябе. Сам загінуў, іншыя не пацярпелі. Папярэдне вядома: ён быў інвалідам і хвараў на рак.

### Для забойцы Юліі Саламацінай просяць 17 гадоў

Пракурор папрасіў суд прызначыць галоўнаму фігуранту справы аб забойстве 18-гадовай Юліі Саламацінай Паўлу Цыняўскаму 17 гадоў калоніі. А яго памагатай, маці, 2 гады калоніі. І спагнаць з абаіх у сукупнасці 2 мільярды рублёў на карысць маці Юліі. Прысуд вынесуць 5 лютага.

### Трохгадовага хлопчыка выкінулі з балкона

Вечарам 28 студзеня жыхары аднаго са шматпавярховікаў у Фрунзенскім раёне сталіцы на казырку пад'езда заўважылі дзіця. Выклікалі міліцыю. Аказалася, 3-гадовага хлопчыка скінулі з балкона 12 паверха. Мяркуецца, што гэта ўчыніла п'яная маці. Дзіця памерла ў бальніцы.

### Кантрабанда змей

Гомельскія мытнікі знайшлі ў цягніку Кіеў — Санкт-Пецярбург кантрабандных пітонаў і малочных змей. У міжстолевай прасторы аднаго з купэ сярод схаваных ад мытнага кантролю прамысловых тавараў былі знойдзеныя жывыя рэптыліі. Правозіла іх пасажырка купэ. Ацанілі кантрабанду ў 73 мільёны рублёў.

### Страшная аварыя на трасе М1

У панядзелак на трасе Мінск—Брэст побач з лагістычным цэнтрам «Мінск-Белмытсэрвіс», каля вёскі Воўчкавічы Мінскага раёна, адбылося страшнае здарэнне. Джып «Хундай Туксон» урэзаўся ў фуру «Вольва». Ды так, што дах джыпа, лічы, срэзала, змяла. Кіроўца легкавіка, 54-гадовы індывідуальны прадпрымальнік, шпіталізаваны з траўмамі. Каб яго дастаць з салона, ратавальнікам давялося выкарыстоўваць гідраўлічны інструмент.

### Порна «УКантакце»

Следчыя выявілі тры выпадкі размяшчэння жыхарамі Гродзенскай вобласці парнаграфічнага відэа на ўласных старонках УКантакце. Сярод падазраваных — гродзенец 1993 года нараджэння, рабочы са Смаргоні 1994 года нараджэння ды беспрацоўны з Лідскага раёна 1992 года нараджэння. Іх дзеянні падпадаюць пад ч.2 артыкула 343 УК РБ («вытворчасць і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў альбо прадметаў парнаграфічнага характару») і караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін ад 2 да 4 гадоў.

А ў жыхара вёскі Лідскага раёна 1990 года нараджэння нават парнаграфічны матэрыял з удзелам непаўналетніх знайшлі.

### У Воранаўскім раёне мужчына выразаў у суседа два дзясяткі авечак

Познім вечарам не раз судзімы мужчына улез у хлеў з суседскімі авечкамі. Зарэзаў трынаццаць авечак і двух ягнят. А чаму? А каб адпомсціць. Бо той гаспадар авечак выкрыў, што гэты зэк краў у яго інструмент.

### От, той інтэрнэт

Рыбак з Івацэвіцкага раёна выклаў у Інтэрнэт фота 31-кілаграмовага сома. А ў зімовы перыяд лавіць яго жа сомаў забаронена. Цяпер іх шукае інспекцыя ахова прыроды. У выніку рыбак можа заплаціць штраф у 12 базавых (2,16 млн рублёў).

Згодна з новымі правіламі вядзення рыбацтва, якія дзейнічаюць з 26 чэрвеня 2014 года, зімою, калі сом залягае у зімавальныя ямы, упадае ў здранцвенне і можа быць лёгкай здабычай, лавіць яго нельга. Калі выпадкова зловіш сама, яго трэба адпусціць жывым.

### Хлопчык зваліўся з трэцяга паверха ў аэрапорце

6-гадовае дзіця сваволіла, не слухалася мамы, лазіла па парэнчах. У нейкі момант хлопчык сарваўся і ўпаў з трэцяга паверха. З пераломамі дзіця трапіла ў бальніцу. Дый добра, што жывое.

### Разбіліся ўзбекі

29 студзеня адбылася аварыя на трасе Магілёў—Гомель, каля вёскі Сялец. Кіроўца Chevrolet не даў рады кіраванню і дапусціў сутыкненне з Opel Vivara, які рухаўся насустрач. «Шэўрале» загарэўся, а ў яго салоне загінулі грамадзяне Узбекістана (34, 39 і 41 гадоў), якія сядзелі ззаду. Кіроўца і пасажыр з пярэдняга сядзення шпіталізаваныя. Кіроўца «Опеля» не пацярпеў.

КМ



SK.GOV.BY

# З Onliner.by сышоў галоўны рэдактар Дзяніс Блішч

«Гэта былі **крутыя гады**, за якія я ўдзячны лёсу і ўсім, хто мае дачыненне», — піша Блішч у Твітары.



«Калі я прыйшоў у Анлайнер, сайт наведвала каля 40 тысяч чалавек на дзень і добра калі 5 тысяч чыталі навіны. Цяпер можна казаць пра тое, што рэдакцыйны пласт на сайце цікавы тром сотням тысяч чалавек штодзень», — кажа ён.

Прычынай сыходу ён называе «выслугу гадоў»: «Немагчыма быць у тонусе, калі сядзіш на адным месцы так доўга. Калі ўявіць чалавека як творчую адзінку, то яго падыходы да працы старэюць разам з ім, калі доўга-доўга не змяняецца сутнасць самай працы».

Блішч сцвярджае, што яго сыход не звязаны ні з прыходам новага кіраўніка Ксеніі Шураўкі, ні з сыходам дырэктара Аляксандра Стэльмаха. Ідэя пакінуць кампанію ў яго з'явілася даўно, але ён не мог кінуць працу падчас праекту «Нашыя ў Амерыцы», а затым і крызісу з пазбаўленнем дамена.

Імя новага галрэда Onliner.by стане вядома ў сакавіку. Па звестках Блішча, калектыву прапануюць прыняць ці адхіліць кандыдатуру.

Дзяніс Блішч прыйшоў на Onliner.by у кастрычніку 2008 года, стаў галоўным рэдактарам летам 2009 года. Пры ім сайт трапіў у дзясятку самых наведвальных сайтаў Беларусі, стаў адным з самых папулярных анлайн-СМІ. Вядзе ўласны блог.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Ці варта Беларусі браць прыклад з Катара?

Азіяцкая зборная сенсацыйна **заваявала срэбра** на гандбольным мундыялі.

Перад пачаткам чэмпіянату свету нават самыя смелыя эксперты не маглі даваць прагнозаў наконт такога выступлення гаспадарскай зборнай. Ну, выйдуць з групы, максімум — 1/4 фіналу. Але каб другое месца... Скачок быў зроблены проста нерэальны: усё-такі найлепшым вынікам зборнай Катара дагэтуль было 16 месца на чэмпіянаце 2003 года. Чаму так сталася?

### Натуралізацыя

Калі мы паглядзім на асноўны склад каманды Катара, то пабачым там даволі шмат нетыповых імёнаў для Персідскага заліва. Тры чарнагорцы, два іспанцы, кубінец, серб, француз, баснiец — вось галоўныя творцы поспеху катарскай дружыны. У асноўным складзе звычайна выходзілі ўсяго два чалавекі мясцовага паходжання.

Гэта і цяпер служыць падставай для шматлікіх жартаў. Але Хамад Мітані, спартыўны дырэктар зборнай, не бачыць прычыны для смеху: «Катар у фінале. І што б ні казалі пра нашых натуралізаваных гульцоў, яны жывуць тут, ведаюць гімн і законы эмірату. Яны такія ж жыхары Катара, як і я! І гэтая каманда падарыла краіне спартыўнае свята». Трэніруе зборную, дарэчы, таксама замежнік — іспанскі спецыяліст Валера Рывера, які прывёў зборную Іспаніі да перамогі на чэмпіянаце свету 2013 года.

### Арбітры

Вядомая рэч, што арбітры схільныя сімпатызаваць камандзе, якая прымае турнір. І гэта нават не пытанне хабару. Людзей добра размясцілі, пакармілі, стварылі ўсе ўмовы для працы, паўсюль усё выдатна арганізавана — ці не малайцы катарцы? Звычайны сабе псіхалагічны фактар, ніякага меркантылізму.

### Развіццё мясцовага чэмпіянату

Толькі адзін гулец зборнай выступае ў замежным чэмпіянаце. Гэта значыць, што ўсе легіянеры-зборнікі на дадзены момант гуляюць у мясцовых камандах, з'яўляючыся прыкладам для катарскай моладзі і дапамагаючы ў развіцці клубнага гандбола ў Катары. Які, як вядома, з'яўляецца важным крокам у пабудове моцнай нацыянальнай каманды. Паглядзім, што атрымаецца ў далёкай перспектыве — з'явяцца свае моцныя гандбалісты, альбо цікаўнасць да гульні знікне, а разам з ёй і ўсе высокааплочваемыя найміты.

Канечне, галоўнае, што стала грунтам для ўсяго вышэйпералічанага, — гэта добрае фінансаванне. Без грошай не было б ні клубаў, ні легіянераў, ні чэмпіянату. Але гэта не значыць, што ў катарцаў няма чаму павучыцца.

**Зміцер Міцкевіч**

## Глеб змяніў Конью на Анкару

У біяграфіі найлепшага пакуль беларускага футбаліста XXI стагоддзя новая каманда. Аляксандр Глеб падпісаў кантракт з клубам «Генчлербірлігі» з турэцкай сталіцы. У перакладзе з турэцкай назва перакладаецца як «саюз моладзі». А мянушка ў іх — «вецер з Анкары».



Клуб быў заснаваны ў 1923-м. Знакавы для Турцыі час: у гэты год прэзідэнтам краіны становіцца Кемаль Атацюрк. Але, нягледзячы на амаль стагадовую гісторыю, тытулаў каманда амаль не заваёўвала, толькі двойчы брала Кубак краіны. У Турцыі заканадаўцамі моды выступаюць каманды са Стамбула, а не Анкары.

Глеб да гэтага гуляў у камандзе «Коньяспор», але там у яго не заладзілася з трэнерам, славутым у мінулым турэцкім футбалістам Айкутам Коджманам. Кажуць, што настаўнік не пераносіць побач з сабой моцных асоб.

Колькі будзе атрымліваць у «Генчлербірлігі» Глеб? Пакуль невядома. Але ж дакладна, што больш, чым мог у Беларусі. Многія футбольныя зоркі на сканчэнне кар'еры едуць зарабіць шалёныя грошы ў ЗША, Індыю ці Аўстралію, але Глеб выбраў гульню ў моцным чэмпіянаце.

**Зміцер Панкавец**



**Фотафакт**

### Valentino ашаламіў Парыж калекцыяй вышыванак, прысвечанай Шагалу

Неверагодна прыгожым і крыху нечаканым стала закрыццё чацвёртага дня Тыдня моды Haute Couture ў Парыжы. Закрываў паказ модны дом Valentino, які вывеў на подыум мадэляў у вышыванках, жупанах і камізэльках з воўны. Ён прысвяціў калекцыю нашаму земляку Марку Шагалу.

Італьянскі брэнд звярнуўся да этнічных элементаў у касцюме. Гэтым разам дызайнеры чэрпалі натхненне ў традыцыйных вышыванках і элементах адзення з Украіны і Беларусі.

**Меркаванне**

## Б'ём трывогу пра спайсы, а галоўная пагроза іншая



Піша **Сяргей Макарэвіч**.

У 2014 годзе ад спайсаў загінула каля 30 чалавек. Больш за 700 траплялі ў бальніцы з перадозам.

Пра гэтую бяду, спайсы, можна пачуць адусюль. І з ёй змагаюцца. Здаецца, тыдня не праходзіць, каб сілавікі не затрымалі якога наркараспаўсюдніка. Сотні кілаграмаў канфіскаваных і знішчаных наркотыкаў. І такая барацьба дае плён.

Але вялікія сілы кідаюцца на барацьбу з тым, што не можам кантраляваць. І куды менш змагаемся з тым, што магчыма перамагчы.

«Калі параўнаць атручванні са смяротным вынікам, то ад алкаголю смерцяў прыкладна ў 30 разоў больш, чым ад наркотыкаў», — нядаўна заявіў галоўны нарколаг краіны. Гэта тыя, хто атруціўся. А яшчэ хранічны алкагалізм, які прыводзіць да смерці.

У 2012 ад хранічнага алкагалізму памерла 512 чалавек (2011 — 980, 2010 — 601). А яшчэ людзі гінуць па віне п'яных кіроўцаў.

Сюды трэба дадаць тых, каго нападпітку зарэзаў муж, да смерці збіў сусед...

Між іншым, у Следчым камітэце прыйшлі да высновы, што «большасць злачынстваў супраць жыцця і здароўя грамадзян у быце здзяйсняецца ў нецвярозым стане. На глебе алкагольнага ап'янення адбываецца рост сямейных скандалаў і звязаных з імі злачынстваў. Асноўнай зброяй бытавых забойстваў з'яўляецца звычайны кухонны нож, які, як правіла, заўжды пад рукой».

На алкагалізм і алкагольныя псіхозы ў 2013 захварэла 21 722, на наркаманію і таксікаманію — 1537.

Праблема алкагалізму не менш важная. Але захады не скіраваны на вынішчэнне прычыны бедаў — алкаголю. З наркотыкамі ж змагаюцца менавіта так. Паўмеры не працуюць.

Школьнікам аднолькава расказваюць пра небяспеку алкаголю і наркотыкаў, але спіртное ў крамах яны сустракаюць у свабодным доступе.

Грошы ад наркотыкаў асядаюць у кішэнях наркагандляроў. Ад алкаголю — паступаюць у бюджэт. Але гэта аднолькава брудныя грошы.

# Вольга Карач: «У мяне хвароба Бехцерава, але я не здалася»

Гутарка з **лідаркай** грамадскай кампаніі «Наш дом».

Вольга Карач расказвае аб сваіх планах на будучыню і захапленнях маладосці, спрэчках з мужам з-за Паўла Севярынца і выкананні хатніх абавязкаў, а таксама разважае, чаго не хапае беларускім жанчынам.

**«Наша Ніва»: Нядаўна Вы падводзілі вынікі мінулага года для ініцыятывы «Наш дом». А якім быў год 2014 для Вас асабіста?**

**Вольга Карач:** Вельмі цяжкім. Асабліва з пункту гледжання нечаканасцяў. Вось для мяне было нечаканым, што столькі людзей у нас падтрымлівае Расію і знаходзіцца ў расійскай ментальнай прасторы.

Цяпер таксама склалася сітуацыя, што на прэзідэнцкіх выбарах ёсць адзін кандыдат, які можа іх выйграць. І гэта — не Аляксандр Лукашэнка. Гэта той кандыдат, якога падтрымае Расія. Раней Аляксандр Лукашэнка і быў гэтым самым кандыдатам. Але цяпер гэта не відавочна. Перад беларусамі цяпер стаіць пытанне: абраць шлях незалежнасці альбо стаць часткай РФ, «рускага свету».

### Чаго я баюся? Грамадзянскай вайны

**«НН»: Калі вы ўжо ўзгадалі аб прэзідэнцкіх выбарах… Што з Вашай кандыдатурай на выбарах-2015?**

**ВК:** На жаль, пакуль я не адказала для сябе на гэтае пытанне. Удзельнічаць проста для ўдзелу я не хачу. Так, прыгожы пункт у CV, але не дае ніякага выніку. А калі тыя, хто паспрабуе скінуць дзейную ўладу, наблізяцца да перамогі, гэта аўтаматычна прывядзе да пэўных дзеянняў з боку Расіі і пэўных сцэнароў на нашай тэрыторыі. І гэта замкнёная кола. Таму цяпер для мяне грамадзянская вайна — не такі ўжо неверагодны сцэнар. З аднаго боку — Расія і яе прыхільнікі, з другога — прыхільнікі незалежнасці краіны. У нас цяпер доўгая мяжа з Расіяй, якая практычна не ахоўваецца. Што рабіць у гэтай сітуацыі?

**«НН»: Вы яшчэ не вызначыліся са сваёй кандыдатурай, але я вось па Вас бачу, што гэта хутчэй адпавядае выказванню: «калі ў чымсьці сумняваешся — не рабі»…**

**ВК:** Ёсць такое. У кожнага чалавека ёсць 30—40 гадоў актыўнасці. Мне ніколі не было важна пражыць жыццё з простым наборам муж-кухня-дзеці. Мне з дзяцінства важна, каб жыццё мела сэнс. І калі будзе хоць 5% упэўненасці, што мы можам перамагчы, то варта змагацца.

### Мы з мужам перабіваемся перакусамі

**«НН»: Вы сказалі, што не хацелі б быць проста жонкай і маці. А як справы ў Вашай сям'і?**

**ВК:** Калі я была дэпутатам Віцебскага гарсавета, да мяне прыйшоў нейкі дзядзька-выбаршчык, які



**Вольга Карач**

Нарадзілася ў 1979-м у Віцебску, скончыла школу з залатым медалём, узначальвала моладзевую арганізацыю «Сёмая грань». Скончыла філфак ВДУ імя Машэрава з чырвоным дыпломам, паралельна ўзначальвала рэгіянальнае аддзяленне «Зубра». Працавала ў школе выкладчыцай англійскай мовы. Была дэпутатам гарадскога савету 24-га склікання. Заснавальніца грамадзянскай кампаніі «Наш дом». Замужам, гадуе сына і дачку.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

хацеў павіншаваць сваю калегу, што сыходзіла на пенсію. І ён папрасіў зрабіць яму святочны буклет. Мы сказалі: добра, нясіце інфармацыю пра яе. Дык вось адзінае, што гэты чалавек мог сказаць пра гэтую жанчыну было тое, што яна добра вырошчвала кветкі на дачы і была добрай маці. Ведома, буклет мы зрабілі. Але я прыйшла тады да высновы, што лепш хай пра мяне кажуць вельмі дрэнна, чым, калі мне споўніцца 60 гадоў, пра мяне змогуць сказаць толькі тое, што я кветкі вырошчвала.

**«НН»: А з кветкамі ў Вас што?**

**ВК:** Не растуць. Але магу падзяліцца самым вялікім сакрэтам у маім жыцці: я не ўмею гатаваць. Адзінае, што я вывучыла, як прыгатаваць — кітайскі суп і кураня табака. Гэта было зроблена дзеля таго, каб пераканаць майго бацьку, які мне заўжды дакараў: як гэта — жанчына не ўмее гатаваць! Проста ў мяне маці — прафесійны повар з 35-гадовым стажам, і таму ў мяне не было шансаў навучыцца.

**«НН»: Атрымліваецца, муж гатуе?**

**ВК:** Мы перабіваемся перакусамі. Муж, канечне, часам гатуе. Але ў нас няма такога ўкладу ў сям'і, які быў у маіх бацькоў, напрыклад. Маці ўставала а 5 раніцы і гатавала кожнаму стравы на выбар. Было два супы, тры нейкія іншыя стравы, кожнаму свая. А не магу ўявіць, што ў мяне так будзе. Я і кітайскі суп вывучыла толькі таму, што ён гатуецца пяць хвілін па прынцыпе піцы: накідаў усё, што ёсць пад рукамі, і ўсё.

### Дзяцей даглядаюць бабуля з дзедам

**«НН»: А дзецям як?**

**ВК:** Дзяцей даглядаюць мая матуля з бацькам. Таму ў іх у плане харчавання ўсё ў парадку.

**«НН»: Пра Вашага сына я хоць нешта чуў. А пра дачку…**

**ВК:** Маша шмат хварэе, таму бабуля яе возіць да доктара. Ёй амаль чатыры месяцы, добрая дзяўчынка. Святаслаў, напрыклад, музычны хлопчык — рэагуе на розныя гукі і мелодыі. А Мары больш патрэбная камунікацыя: за руку яе патрымаць, пагуляцца.

**«НН»: Ходзяць чуткі, што, акрамя нерухомасці ў Вільні, у Вас яшчэ ёсць падобныя актывы ў Празе…**

**ВК:** На жаль, у мяне няма нерухомасці ні ў Вільні, ні ў Празе. Але вельмі хацелася б яе мець. Гэта той выпадак, калі хочацца, каб чуткі былі праўдай. Проста ў нас арганізацыя зарэгістраваная ў Чэхіі, Польшчы і Літве.

### Вяселле з адвакатам сарвалася з-за прозвішча

**«НН»: Як Вы з мужам хатнія абавязкі дзеліце?**

**ВК:** У нас усё па дамоўленасці. Калі аб прыватных пытаннях, то для мяне вельмі прынцыповым было захаванне свайго прозвішча. Гэта звязана з тым, што мой бацька адчуваў сябе неяк няёмка, што ў яго няма сына, бо былі толькі мы з сястрой. Я ўсё дзяцінства чула, што вось мы з сястрой выйдзем замуж, а ён будзе апошнім, хто носіць наша прозвішча. І я ў 16 год яму сказала, што я буду апошняй. Пасля я сустрэла вельмі добрага таленавітага хлопца, паспяховага адваката. У яго была трохпакаёвая кватэра, машына, добрая праца. Мы збіраліся ажаніцца. За тры тыдні да вяселля ён мне кажа, што я павінна выбіраць. Па-першае, для яго было прынцыповым, каб я насіла ягонае прозвішча. А па-другое, я павінна была пакінуць сваю грамадскую дзейнасць толькі на тым узроўні, на якім яна знаходзілася тады. Мы моцна пасварыліся і рассталіся.

А з маім цяперашнім мужам Алегам мы проста спачатку рабілі разам літаратурны часопіс, былі партнёрамі. І атрымалася, што мы можам развязваць на нейкія агульныя тэмы, дапамагаць адно аднаму. Вось так і завязалася.

**«НН»: Раскажыце, як удалося прывабіць такую актыўную дзяўчыну, як Вы?**

**ВК:** Я неяк прачытала кніжку С'юзан Пэйдж «Калі я такая выдатная, чаму я дагэтуль адна?».

І вось там выказваецца думка, што трэба вырашыць, якія якасці ў чалавеку для цябе важныя на доўгі перыяд. І я сабе такі спіс склала.

**«НН»: І птушачкі пасля ў ім ставілі?**

**ВК:** Так. Мне было ясна, што я не падарунак у сямейным жыцці. Кухня — не маё поле бітвы. Мяне часта дома няма. І звычайны беларускі мужчына будзе ад мяне чакаць іншых рэчаў. Гэта не добра і не дрэнна — нас так выхоўвалі. І з такім чалавекам у нас быў бы пастаянны канфлікт. Што да рамантычнай гісторыі, то ўзгадваецца наступнае. Не сакрэт, што ў мяне ёсць праблемы са спінай — хвароба Бехцерава. Быў час, калі яна развівалася даволі актыўна — я нават не магла хадзіць. У мяне з-за гэтага развілася дэпрэсія, здавалася, што ўсё не мае сэнсу. Я страціла надзею. Ляжала, і мне нічога не хацелася. І вось мой муж адзін раз падышоў да мяне, узяў за руку і сказаў: «Вольга, ты жанчына з самым дрэнным характарам з усіх, якія я ведаю. І я не веру, што з такім характарам ты проста так зможаш здацца і змірыцца». Гэта былі самыя важныя словы ў маім жыцці.

### Найгоршыя якасці жанчыны ўвасобіліся ўва мне

**«НН»: Пра характар — гэта сапраўды так?**

**ВК:** Вось мой бацька лічыць, што ўсе найгоршыя якасці, якія толькі могуць быць у жанчыны, увасобіліся ўва мне. Я памятаю, што аднойчы ён мне сказаў, што калі мяне пасадзяць на нейкі доўгі тэрмін, то для іх з маці гэта будзе смерць. І роўна на наступны дзень нас з мужам арыштоўваюць па справе тэракта ў мінскім метро.

**«НН»: Вы — грамадскі лідар, публічная асоба. А дома ў Вас хто кіруе?**

**ВК:** Цікавае пытанне. У нас з мужам заўжды нейкі кансэнсус знаходзіцца. Мы з ім сварыліся толькі аднойчы. Проста ён жа з хрысціянскай дэмакратыі, а я — сацыял-лібераl. І спрачаліся, дарэчы, праз Паўла Севярынца. Я была на яго злая, а для Алега ён — добры сябра дзяцінства. Ён быў у нас нават сведкам на вяселлі. Севярынец заўсёды памятае, што ён публічная асоба. Таму нават на вяселлі быў больш не сведкам, а палітыкам. Калі чалавек ніколі не п'е, заўжды правільна сябе паводзіць — гэта, канечне, добра. Але, з другога боку, на яго ўсё гэта цісне, і яму цяжка знаходзіць прастору, дзе ён можа адпачыць і пабыць не палітыкам, а проста чалавекам.

### Дзяўчаты жывуць толькі да 30 гадоў, а далей — жыццё пасля смерці

**«НН»: Вы казалі, што беларусы — гарадская нацыя. Наколькі Вы гараджанка?**

**ВК:** Я нарадзілася і вырасла ў горадзе. Гарадская і сялянская культуры — розныя. У селяніна прыватная тэрыторыя большая — свой дом, ты менш сутыкаешся з суседзямі. Але ў той жа час супольнасць маленькая, усе ўсіх ведаюць, таму табу працуюць мацней. І ў нас так атрымалася, што некаторыя людзі з вёскі пераехалі ў горад і падумалі, што пэўныя табу проста не працуюць у горадзе. А новыя яшчэ не выпрацаваліся.

А з гарадской культурай бяда. Напрыклад, якія песні спяваюць за сталом гарадскія жыхары? Вось у вёсцы — зразумела. У дзядулі і бабулі мы спявалі розныя вайсковыя і партызанскія песні. А ў горадзе што? Маўчанне.

Чаму Расіі вельмі лёгка тут уплываць? Бо няма гарадскога патрыятызму. Людзям збольшага няма розніцы, дзе жыць: у Віцебску, у Гомелі — гарады не маюць свайго твару. У нас не хапае гонару за свае гарады.

**«НН»: Як Вам удаецца сябе падтрымліваць у такім добрым стане?**

**ВК:** Дзякуй за камплімент. Але я не лічу, што добра выглядаю, бо мне цяпер не хапае часу для сну. І ведаеце, не так важна, якога жанчына памеру. Істотна, ці гарачь у яе вочы. ...Увогуле, на маю думку, жанчынам у Беларусі не хапае любові. Дзяўчат у Беларусі гадуюць так, што жывуць яны толькі да 30 год, а далей — жыццё пасля смерці. Яна закрываецца ў сям'і ці кар'еры на нелюбімай працы. Але яна гэта робіць, бо павінна. А так быць не павінна!

### Я брунэтка, якая стала бландзінкай

**«НН»: Яшчэ адна цікавая дэталь. Пагляздзеў «Буквар «Нашага дома», і там амаль усе жаночыя персанажы нагадваюць Вас. Гэта спецыяльна?**

**ВК:** Мы вырашылі пагуляць з вобразам бландзінкі ў палітыцы. Атрымалася ўдала — гэта зайшло ў нейкія архетыпы. А па натуральным колеры валасоў я — брунэтка.

**«НН»: Гэта Вы з палітычнай нагоды перафарбаваліся?**

**ВК:** Не, я пафарбавалася значна раней. Проста мяне крыўдзілі анекдоты пра бландзінак. І я, як феміністка, вырашыла адказаць такім чынам.

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**

# Жураўкоў пагарачыўся

З цяперашняй сістэмай адукацыі Беларусь ніколі не трапіць у Балонскі працэс, піша **Максім Бялькевіч** з хімфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.



Некалькі тыдняў таму свет пабачыла першае інтэрв'ю прызначанага міністра адукацыі, былога віцэ-рэктара БДУ Жураўкова Міхаіла. Сярод першачарговых мэтаў ён ставіць далучэнне да Балонскага працэсу ўжо ў 2015 годзе.

Беларусь ужо не адзін год спрабуе атрымаць статус дзяржавы-ўдзельніцы Балонскага працэсу. Але ўсё ніяк. Чаму? Распавяду як чалавек, цесна звязаны з вышэйшай адукацыяй.

Па-першае, гэта людзі. Ніхто не зможа і не захоча прыняць у працэс краіну, у якой ад 40 да 70% студэнтаў атрымліваюць адукацыю «для корачкі».

Па-другое, роля ўніверсітэта ў сучаснай адукацыі. У большай колькасці краін «адукацыя — гэта вучэнне вучыцца ў час hi-tech», а ў нас на дадзены момант — гэта кантралюючы орган (універсітэт), які не абавязаны даваць веды, а павінны кантраляваць тое, як студэнт іх засвоіў з падручнікаў 50—60-х гг. мінулага стагоддзя.

Трэцяя прычына — састарэлыя праграмы. Нельга казаць, што яны кепскія. Варта казаць, што яны не адпавядаюць сучасным запытам практычных ведаў.

Адна з галоўных прычын — самакіраванне. Дакладней, яго адсутнасць. У студэнтаў абсалютна паралізаваны студэнцкія прафсаюзы, якія не робяць нічога, каб абараніць правы навучэнцаў. Кепскі расклад заняткаў? Спецкурсы на выбар прымусовыя? Абароны няма! Але грошы ад кожнага «чальца» ляцяць у казну прафсаюза кожны месяц. А чальцы адзінага прафсаюза — усе. Прымусова. Адзіная арганізацыя самакіравання — БРСМ. Безальтэрнатыўная.

Гэта, на мой погляд, толькі нямногія з тых галоўных прычын, якія ёсць на дадзены момант.

Таму, як здаецца студэнцкай суполцы БДУ, спадар Жураўкоў пагарачыўся.

Афіцыйна

# Лагістычнага цэнтра ў Альшанах не будзе

**Адказ** з Камітэта дзяржкантролю.

Пасля публікацыі артыкула «Альшанскі цуд: вёска, якая абвергла Маркса» (№39) сітуацыяй з мясцовымі фермерамі зацікавіўся былы дэпутат Вярхоўнага Савета Віктар Алампіеў. Ён звярнуўся ў Камітэт дзяржкантролю з просьбай разабрацца з праблемай выдзялення зямлі фермерам і з будаўніцтвам лагістычнага цэнтра. Алампіеў атрымаў адказ.

«Трэба адзначыць, што ў названым рэгіёне сапраўды існуе праблема забеспячэння насельніцтва зямельнымі надзеламі для вядзення гаспадаркі. Камітэт дзяржкантролю разбіраўся з гэткай праблемай яшчэ ў 2011 годзе. І вывучалася пытанне пра магчымасці выдзялення дадатковых зямельных надзелаў некаторым фермерскім гаспадаркам, створаным у наваколлі г. Давыд-Гарадка, аг. Альшаны і іншых бліжэйшых населеных пунктах за кошт канфіскацыі зямлі ў сельгасарганізацый».

«Было выяўлена, што найперш праблема абумоўлена высокай шчыльнасцю насельніцтва ў названай мясцовасці, дзе не толькі фермеры, але і многія жадаюць пашырыць зямельныя надзелы звыш вызначаных памераў (у сярэднім па Столінскім раёне памер надзелаў грамадзян складае ад 0,25 га да 1,0 га)».

На тэрыторыі Альшанскага сельвыканкама пражывае каля 8,7 тысяч чалавек, у іх карыстанні 1,4 тысячы га зямлі сельгаспрызначэння. Там налічваецца 22 фермерскія гаспадаркі, якія выкарыстоўваюць 1,14 тысяч га зямлі.

«Таксама варта адзначыць, што на тэрыторыі названага сельвыканкама штогод рэгіструецца каля 80 шлюбаў, у сувязі з чым патрабуецца дадаткова выключаць для зноў створаных маладых сем'яў з грамадскага сельгасабароту да 25 га зямлі».

Альшаны і Давыд-Гарадок размешчаны на тэрыторыі двух сельскагаспадарчых кааператываў — «Новая Прыпяць» і «Палеская ніва», «якія стабільна развіваюцца і дзе працуе больш за 1000 чалавек».

І прыводзіцца статыстыка: у 2014 «Новая Прыпяць» і «Палеская ніва» атрымалі ўраджайнасць зерня 50,1 ц/га і 54,6 ц/га адпаведна (у сярэднім па Столінскім раёне 41,5 ц/га). Са студзеня 2012 па кастрычнік 2014 у «Новай Прыпяці» павялічылася на 20,9% колькасць буйной рагатай скаціны (да 7,3 тысяч галоў), у «Палескай ніве» — на 9,5% (да 5,6 тысяч галоў). За 9 месяцаў 2014 «Новая Прыпяць» атрымала чыстага прыбытку 7 мільярдаў рублёў, «Палеская ніва» — 14 мільярдаў.

Таму раённыя чыноўнікі яшчэ ў 2009 вырашылі выдзяляць зямлю для развіцця фермерскіх гаспадарак у заходняй частцы Столінскага раёна. Для фермерскай гаспадаркі Столінскі райвыканкам прапаноўваў фермерам узяць у арэнду альбо выкупіць адно з сельгаспрадпрыемстваў раёна. Адмовіліся.

«Што тычыцца невыканання даручэння кіраўніка дзяржавы аб будаўніцтве ў аг. Альшаны лагістычнага цэнтра, то кіраўнік дзяржавы рэзалюцыяй ад 15.01.2013 пагадзіўся з меркаваннем урада і Брэсцкага аблвыканкама аб немэтазгоднасці яго будаўніцтва».



### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты. У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы наракані павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**
**Skype: nashaniva**

# У метро новыя правілы карыстання прапісалі па-расейску. А чаму?

У Беларусі былі прынятыя новыя правілы карыстання метрапалітэнам, у сувязі з чым кіраўніцтва метрапалітэна апублікавала новыя правілы, традыцыйна размешчаныя ў адведзеным блоку, што друкуецца пад мапамі метрапалітэна ў вагонах метро.

Але новыя правілы былі апублікаваныя не на беларускай (як гэта было раней), а на расейскай мове.

Раней мінскі метрапалітэн ужо спрабаваў замяніць беларускую мову расейскай. Так, абвесткі пра чарговую станцыю ў метрапалітэне кароткі час аб'яўляліся па-расейску, але праз звароты грамадзянаў былі неўзабаве заменены. Пазней метрапалітэн рабіў спробу русіфікаваць абвесткі аб правілах карыстання, але праз звароты грамадзян абвесткі былі пераагучаныя.

Упэўнены, што дастатковая колькасць зваротаў падштурхне кіраўніцтва да вяртання беларускай мовы ў правілы, што мае сэнс як гледзячы на размешчаную над правіламі беларускамоўную мапу метрапалітэна, так і ранейшую рэдакцыю правілаў, што публікавалася па-беларуску.



Прапаную перакласці правілы карыстання метрапалітэнам на беларускую мову можна, даслаўшы ліст па адрасе 220030, г. Мінск, пр. Незалежнасці, 6, дырэктару КУП «Мінскі метрапалітэн» Расціславу Станіслававічу Юрэню.

Апроч таго, просьбу можна даслаць праз форму электронных зваротаў на афіцыйным сайце, а таксама на электронную скрыню (mail@metropoliten.by)

Яе можна выказаць і ў вуснай форме, патэлефанаваўшы па тэлефоне на гарачую лінію 8 (017) 219-50-09.

**Максім Ляшко, Мінск**

### Ад Рэдактара. Прычым тут урад?

З метро прыйшоў першы адказ на звароты. Маўляў, звяртайцеся на ўрад, каб той прымаў нарматыўныя акты пабеларуску. Пры ўсёй павазе да работнікаў метрапалітэна, якія бездакорна служаць людзям, у дадзеным выпадку гэта проста смешна. Ці ж праблема — перакласці тэкст на беларускую мову? Прычым тут урад? Трэба не адфутбольваць, а проста перарабіць.

Водгукі

## Кацярына Андрэева, за табою будучыня!

Паважаныя сябры!

Хачу выказаць сваю думку на публікацыю матэрыялаў Кацярыны Андрэевай. Мяне гэта закранула надзвычай і моцна. Я не мастак пісаць, а таму вось як. Каця, за табою і такімі, як Вы, будучыня нашай радзімы на бліжэйшыя 50 год.

Моцы і дужасці табе і равеснікам тваім, нехай свеціць над Вамі сонца і зорка Еўфрасінні Полацкай і многіх нашых слынных продкаў.

А для Міколы Валошчыка (№1 ад 7 студзеня) так скажу. Мы павінны дапамагаць ім. Бо гэта мы дапусцілі да ўлады сённяшні рэжым. Бо гэтая ўлада толькі аб сабе дбае. Паглядзіце, што сталася з нашай вёскай, ды не толькі. Я жыву ў лукашэнкаўскім аграгарадку, дзе не толькі школу, а і паўразбураны магазін могуць загрэбці і закапаць. Гэтая ўлада знішчае не толькі пустыя хаты, а і нашы душы, нашых продкаў, мову і культуру.

Мэта гэтага фанершчыка і яго прыслужнікаў — улада любым ладам цаною. Каб не так, то не роў бы ён, што будзе балатавацца і будзе прэзідэнтам, нават калі ўвесь свет будзе супраць. Ну, але рана ці позна атрымаюць яны...

**Пятро Філіповіч, Чамярысы (Брагінскі раён)**

## Пра Семенчука і Кручкоўскага

Спадару Семянчук, Вы талковы чалавек і будучыня ў нашай дзяржаве належыць Вам, а не тым, хто Вас звольніў (№3). Я спачуваю ім, а не Вам. Сумленне іх будзе душыць.

У мяне толькі адна малая папраўка да таго, што Вы сказалі. Вы назвалі Тадэвуша Кручкоўскага «польскім дзеячам». Ніякі ён не польскі дзеяч. Ці можа польскі грамадскі дзеяч ісці на чале АМАПа, што захоплівае Дом Польскі ў Гродне?

І — жыве Беларусь!

**Тадэвуш Гавін, Гродна**

## Пра Леўчанку і транссэксуала

Абураны артыкулам «Вечэрняга Могілева» пра транссэксуала з вёскі Магілёўскага раёна (№2). Мне здаецца, ныя людзі абыякавыя, але гэтага небараку стала шкада.

А ў «Вечэрнім Могілеве» артыкул з каментарамі суддзі Леўчанкі не адзін.

Гэтыя людзі не на сваіх месцах!

**Генадзь Рэўтовіч, Магілёў**

## Патрэбныя Бельчукі!

Шчыра дзякую за цудоўны аповед у артыкуле «Нікому не патрэбныя» (№3 ад 21 студзеня) пра мужнасць сямейства Бельчукоў у барацьбе за зямлю і волю. Бельчукі патрэбныя Беларусі! Больш бы такіх змагароў.

**Вячаслаў Сухарэбскі, Русіны (Баранавіцкі раён)**

Liceum

### Бясплатныя заняткі па беларускай мове і гісторыі Беларусі

для вучняў 7—9-х класаў з вядомымі навукоўцамі і педагогамі!



Арганізацыйны сход — 2 сакавіка (панядзелак) у сядзібе ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны» (вул.Румянцава, 13, ст.метро «Плошча Перамогі»). Пачатак — 17.00.

Вачыма паэта

# Грамніцы — зімы палавіцы

Ездзілі сёння ў вёску. Не кінуўся, як заўзвычай, пад колы машыны чорненькі борзды клубок — загрызлі Біма ў шалёнай гайні злыя сабакі. Затое кінуліся проста мне пад ногі мае ўлюбёныя гадаванкі — куры. Заўжды прывожу ім нешта са стала, тое, чаго мае сямейнікі ўжо не ядуць. Добра, што куры такія ўсёедныя, і дабро не прападае. Цёпла сёння, і куры лётаюць проста па снезе. Заўтра Грамніцы — зімы палавіцы. Кажуць, калі на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я наесца вол травіцы. Пэўна, так яно й будзе, толькі вось ані кароў, а тым больш — валоў не засталося аніводнага ў вёсцы. ..

Але ж і слізгота на двары! На табе — упаў на панадворку Мікола, чацверты ўжо раз на адну й тую ж балючую руку! Угаварылі мы яго й завезлі адразу, не заязджаючы дадому, у бальніцу. Покі ён хадзіў на рэнтген, наглядзеліся мы й наслухаліся ўсяго. Дзяўчынку матка прывяла. Патрапіла дзіцё пад палазы санак. Прыбег хірург — малады, увішны хлопец, зачаў зашываць палец. Дзіця крычыць! Між тым доктар на прыёме так пацешна бае: «Сёння столькі народу было! Слізка, усе падаюць! Бабкі ішлі ў касцёл па здароўе і стукнуліся лбамі. Я дзевяць чалавек паклаў».

**Ганна Матусэвіч, Койданаў**

# Цэны на бананы ў Мінску разыходзяцца з уяўленнем Лукашэнкі пра іх

На вярхах **адарваліся ад жыцця**?

«Вось каштаваў, да прыкладу, банан даляр, раней гэта было 10 тысяч. Цяпер даляр падскочыў, і банан каштуе 13—14 тысяч», — сказаў А. Лукашэнка ў чацвер 29 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску, каментуючы сітуацыю з імпартам.

«Я бананы не ўжываю і многія з вас таксама. Пераб'ёмся», — дадаў ён. Але многія беларусы бананы любяць, ядуць і часта іх купляюць. Яны і былі здзіўленыя цэнамі бананаў, агучаным Лукашэнкам: бананы, таннейшыя за 20 тысячаў рублёў, мала дзе знойдзеш!

Карэспандэнт «Нашай Нівы» прайшоўся па мінскіх крамах і ўдакладніў цэны на гэтую заморскую садавіну. Аказалася, на вярхах адарваліся ад жыцця. Бананы каштуюць ад 18 да 25 тысяч рублёў.

**Яўген Крэйда, фота аўтара.**










# У беларускі закон аб ваенным становішчы ўнесеныя папраўкі

З 1 лютага ўступаюць у сілу папраўкі да Закона «Аб ваенным становішчы». Насуперак меркаванню некаторых, пункт пра ўзброеных асоб без апазнавальных знакаў у форме прысутнічаў і ў ранейшай версіі закона. Новыя пункты датычаць АДКБ і ўжывання зброі супраць мірных грамадзян.

Прысутнасць на тэрыторыі Беларусі так званых «зялёных чалавечкаў» (узброеных асоб без апазнавальных знакаў у форме) афіцыйна лічыцца адным з відаў нападу, які пагражае тэрытарыяльнай цэласнасці і суверэнітэту дзяржавы.

Акрамя таго, пагрозай нацыянальнай бяспецы дзяржавы Беларусь, дастатковай для ўвядзення ваеннага становішча, з'яўляецца канцэнтрацыя ўзброеных сіл іншай дзяржавы ля беларускіх межаў.

Як піша аналітык Дзяніс Мельянцоў на сайце naviny.by, у цэлым новая версія закона структураваная лепш за папярэднюю, змяшчае больш выразныя фармулёўкі і больш дэталёва рэгламентуе дзейнасць дзяржаўных органаў і апісвае прававое становішча грамадзян і арганізацый.

Нельга сказаць, што новы закон папярэджвае канфлікт з Расіяй, ён у большай ступені адаптаваны да саюзніцкіх абавязальніцтваў Беларусі ў рамках АДКБ.

Па-першае, нападам на Беларусь цяпер лічыцца акт агрэсіі супраць любой дзяржавы-ўдзельніка АДКБ, чаго раней у законе не было. Гэта значыць, калі талібы нападуць на Таджыкістан, то гэта аўтаматычна лічыцца нападам на Беларусь і можа стаць падставай для ўвядзення ваеннага становішча. Тое самае справядліва, калі Украіна абвесціць ваеннае становішча і будзе весці баявыя дзеянні супраць Расійскай Федэрацыі.

Па-другое, удакладнены пералік аб'ектаў для ваеннай пагрозы: цяпер гэта не толькі Рэспубліка Беларусь у цэлым, яе суверэнітэт і тэрытарыяльная цэласнасць, але і канстытуцыйны лад.

Па-трэцяе, у абноўленым законе больш жорсткі рэжым ваеннага становішча. Да прыкладу, калі раней масавыя мерапрыемствы забараняліся або абмяжоўваліся, то зараз яны забараняюцца без усялякіх умоваў. Раней зброяю ў грамадзян маглі часова адбіраць толькі ў выключных выпадках «з улікам сітуацыі», цяпер жа яна проста «часова адбіраецца». Але пры гэтым прыпыненне дзейнасці палітычных партый цяпер не абавязковая мера ваеннага становішча, а ажыццяўляецца «ў выпадку парушэння імі заканадаўства аб ваенным становішчы па рашэнні органа рэгістрацыі».

Па-чацвёртае, уведзена некалькі новых артыкулаў, якія рэгламентуюць ужыванне фізічнай сілы, зброі, спецсродкаў і тэхнікі вайскоўцамі, якія забяспечваюць рэжым ваеннага становішча. Аналіз гэтых артыкулаў дазваляе зрабіць заключэнне, што вайскоўцы і іншыя асобы, якія прыцягваюцца да забеспячэння ваеннага становішча, маюць права ўжываць сілу і зброю практычна ў любых сітуацыях, у тым ліку супраць бяззбройных цывільных асоб.

Іншымі словамі, беларускія заканадаўцы імкнуліся загадзя выключыць сітуацыі накшталт той, калі нібыта «бяззбройныя грамадзяне» вымусілі ўкраінскіх вайскоўцаў перадаць бранятэхніку ў рукі прарасейскіх «апалчэнцаў» у Краматорску ў красавіку 2014, — піша Дзяніс Мельянцоў.

**Паводле naviny.by**

### Блогеры знайшлі дачку Пуціна, яна жыве пад іншым прозвішчам



Расійскія блогеры лічаць, што ідэнтыфікавалі 28-гадовую Кацярыну Уладзіміраўну Ціханаву, дырэктарку кампаніі «Інапрактыка». Яна ж віцэ-прэзідэнтка сусветнай канфедэрацыі акрабатычнага рок-н-рола.

Сцвярджаюць, што гэта дачка Уладзіміра Пуціна. Мяркуецца, што прозвішча Ціханава ўтворанае ад імені яе прадзядулі.

І такі факцік выявіўся. Кампанія «Інапрактыка» будзе ўдзельнічаць у асваенні $1,7 мільярда (!), выдзеленых на пашырэнне Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**ЯМ**

**Цытата**

### «Расія вывучыць пытанне анексіі ГДР»



Старшыня Дзяржаўнай думы Расіі Сяргей Нарышкін выступіў з заявай, у якой даручыў камітэту па міжнародных справах заняцца пытаннем прыняцця заявы аб асуджэнні анексіі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Федэратыўнай Рэспублікай Германія ў 1989 годзе.

«Прапаную даць даручэнне камітэту па міжнародных справах падрыхтаваць заяву, што асуджае анексію Германскай Дэмакратычнай рэспублікі Федэратыўнай Рэспублікай Германія ў 1989 годзе. Тым больш што, у адрозненне ад Крыма, у ГДР агульнанародны рэферэндум праведзены не быў», — сказаў ён.

**In memoriam**

# Кузьма

Трагічна загінуў **Андрэй Кузьменка** — лідар гурту «Скрябін», культавая постаць украінскай рок-сцэны.


ВЕДОМОСТІ

У кліпах Кузьмы Скрабіна багата кадраў з зімовай дарогай, знятай з акна аўто. Такі кадр з стаў апошнім, што музыка бачыў. 2 лютага ў 8.20 раніцы ён загінуў у аўтааварыі. 46-гадовы спявак вяртаўся з канцэрта, і яго ўседарожнік сутыкнуўся з малакавозам на зімовай дарозе ў Днепрапятроўскай вобласці.

Па ім засталіся жонка Святлана, якую ён усё жыццё аберагаў ад журналістаў, і 18-гадовая дачка Марыя-Барбара. Увечары 2 лютага тысячы людзей выйшлі на майдан Незалежнасці ў Кіеве, каб ушанаваць памяць Кузьмы і праспяваць яго песні.

«Шкада кожнага, хто гіне, але разам з Кузьмой мы быццам страцілі часцінку сэрца», — напісаў у Твітары прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка.

Кузьма пачынаў з панку, захапляўся моднай у 80-я электроннай музыкай, быў цынікам і рамантыкам «у адным флаконе». А гумар Кузьменкі стаў узорным — згадаць хоць бы парадыйную песню «Порш пана мэра» ці сцёбны дзявочы гурт «Поюшчіе трусы».

У часе Аранжавай рэвалюцыі 2004-га «Скрябін» агітаваў за Януковіча. Гэта каштавала яму папулярнасці.

А вось падчас Еўрамайдану—2014, Кузьма быў ужо на баку народа. Пра тыя падзеі ён склаў песню «Історія»:

> «Наша гісторыя — гэта не падручнік
> Свой на свайго надзявае наручнікі
> Свой ад свайго бароніць чужых...»

Алег Скрыпка, лідар гурту «Воплі Відоплясова», лічыць, што і прычына трагедыі з Кузьмой — у той стомленасці, якая наступае ў сувязі з вайной на ўсходзе Украіны. Кузьменка ўвесь час дапамагаў вайскоўцам і параненым у зоне АТА.

Паўдзельнічаў Кузьменка і ў беларускім праекце. Ён запісаў разам з «Крамбамбуляй» песню «Суседзі», пасля таго, як гэта адмовіўся зрабіць Алег Скрыпка.

Андрэя Кузьменку правялі ў апошні шлях у Львове 4 лютага.

**Аляксандр Арсёнаў**

**Андрэй Кузьменка**

Нар. у 1968 у Самборы на Львоўшчыне. У дзяцінстве марыў стаць кіроўцам смеццявоза, бачыў у тым рамантыку. Яго маці была настаўніцай музыкі, Андрэй скончыў музычную школу па класе фартэпіяна. Пасля школы скончыў факультэт стаматалогіі — бацькі папрасілі. Займаўся біятлонам, быў кандыдатам у майстры спорту.

Стварыў у школе панк-гурт «Ланцуговая рэакцыя». Па вяртанні з войска запісаў у 1989 першую песню «Скрябіна» — «Feel The Pain» і яе ўкраінамоўны варыянт «Чуєш біль». Сучасны стыль «Скрябіна» сфармаваўся ў 2002 годзе разам з хітамі «Сам собі країна» і «Герой», у наступным годзе выйшаў галоўны хіт — «Спи собі сама».

# Хай жыве шчаслівая Аўстрыя

Пра найлепшую ўкраінскую кнігу 2014-га піша **Зміцер Панкавец**.

У снежні самую прэстыжную ўкраінскую літаратурную прэмію BBC за найлепшую кнігу года атрымала 32-гадовая Сафія Андруховіч. Гэта дачка культавага пісьменніка Юрыя Андруховіча, добра вядомага беларускаму чытачу раманам «Маскавіяда». Таксама Сафія вядомая як перакладчыца на ўкраінскую казкі пра Гары Потэра.

Дзеянне яе рамана «Фелікс Аўстрыя» адбываецца ў 1900 у Станіславе (сёньняшні Івана-Франкоўск), на ўскраіне шчаслівай (у перакладзе з латыні «felix» азначае шчаслівы) Аўстра-Венгерскай імперыі. Жыхары горада ў знак сваёй лаяльнасці да імперыі адпускаюць бакенбарды, як у самога валадара Франца-Іосіфа.

Бласлаўлёныя часы, калі да Першай сусветнай застаецца больш за дзесяць гадоў, і ніякіх негатыўных узрушэнняў яшчэ не бачна на даляглядзе. Горад гаворыць на польскай, нямецкай, украінскай, армянскай, ідыш. На вуліцах з'яўляюцца аўтамабілі, якія імчацца з шалёнай хуткасцю — 15 кіламетраў у гадзіну. Не так даўно львоўскі фармацэўт Ян Зег запатэнтаваў бляшаную лямпу, якая «засвяцілася» ад нафтапрадуктаў, а тут ужо ў найлепшых дамах праводзяць электрычнасць. Даступнымі становяцца тэлефоны, прамяні Рэнтгена, фотаапараты. Напэўна, ніколі чалавецтва не развівалася настолькі імкліва, як у той перыяд.

## Ці не пазбавілі Украіну год таму такіх ілюзій?

«Як гэтак пойдзе далей, то і Бога фізіка растлумачыць», — разважае гераіня Стэфанія Чарненька.

У аснове рамана — заблытаныя адносіны паміж замужняй шляхцянкай нямецкага паходжання Адэляй Ангер і яе ці то сяброўкай, ці то служкай, ці то сястрой Стэфаніяй Чарненькай. «Вы з Адэляю — як два дрэвы, што спляліся стваламі», — казаў, паміраючы, стары доктар Ангер.






А такія дрэвы не даюць адно аднаму расці. У «Фелікс Аўстрыі» паўстае ў поўнай красе духоўнае калецтва гэтых дзвюх паненак, якія не могуць жыць паасобку, але і разам толькі раняць адна адну. І ўсё гэта пад шыльдай удаванага «шчасця».

Тут узгадваюцца і словы з тагачаснага гімна Аўстра-Венгрыі: «Цесна з Габсбургавым тронам сплёўся Аўстрыі лёс». Ці не тое самае дзяржаўнае калецтва? І тая самая шырма «шчаслівага жыцця»?

«Фелікс Аўстрыя» — кніга незвычайна паэтычная («малітвы — гэта пара ад слёз, якая падымаецца да неба»); містычная (анёлы ў ёй такія ж рэальныя, як людзі); а яшчэ яна можа выклікаць сапраўдны гастранамічны экстаз, калі аўтарка з любоўю апісвае стравы, што елі ў той час у найлепшых станіслаўскіх дамах (неапалітанскі суп з пармезанам, зразы англійскія а-ля Нэльсан, вяндліна, печаная ў цесце, паштэт з ракаў, торт Захера і г.д).

На першы погляд здаецца, што тэма ўкраінскасці не надта і прысутнічае ў кнізе. Непасрэдна яна ўзнікае толькі пару разоў. Напрыклад, уніяцкі святар айцец Іосіф на перспектыву адкрыцця ўкраінскіх школ зазначыў: «Украінцам заўжды бракавала згуртаванасці, як тут не захапляцца прыкладам немцаў ці яўрэяў». Але разам з тым раман наскрозь украінскі. Гэта і постаць Пятра, мужа Адэлі. Ён хоць і русін, але такога арыстакратызму, як у яго, няма больш ні ў кага ў горадзе. Пятро мае незвычайную працу — робіць статуі на магілы і грабніцы. Настолькі самааддана, што часам ягоныя працы ажываюць...

І, канечне, гэта сама Стэфанія Чарненька. Чалавек, які прыдумаў уласны ўтульны свет, чалавек, які здольны чуць толькі тое, што хоча. Лепш за ўсё яе жыццёвыя пазіцыі акрэслівае ілюзіяніст-махляр Эрнэст Торн. «Людзі бачаць толькі тое, што хочуць. Людзі шчаслівыя ўводзіць сябе ў зман. Забяры ў іх ілюзію — і яны разнясуць увесь гэты свет на трэскі: паводкі, пажары, няшчасці. Толькі на ілюзіі, на падмане саміх сябе трымаецца зямны парадак, Стэфка». Ці не пазбавілі Украіну год таму такіх ілюзій?

Сафія Андруховіч у інтэрв'ю казала, што большая частка кнігі была напісаная яшчэ да пачатку трагічных падзей на ўсходзе Украіны. Але адмежавацца ад пэўных паралеляў стагадовай даўніны немагчыма. Вось словы русіна Пятра: «Раніцай мне давялося прачытаць у газеце, як Расія настойвае на тым, каб інтэрвенцыю ў Кітай ніхто не адважваўся разглядаць як вайну, бо ўсе дзеянні рабіліся і робяцца толькі для задушэння паўстання, гэта значыць, з найлепшымі суседскімі намерамі, а адзінай мэтай ваенных дзеянняў з'яўляецца дасягненне хутчэйшай згоды з кітайскім урадам...»

Андруховіч прызнаецца, што падзеі апошняга года ўсё ж наклалі адбітак на агульны фон кнігі, асабліва на яе канцоўку, якая многім падасца надзвычай дэкадэнцкай.

# Шлях расчаравання ў дзяржаве

Пра найлепшую «расейскую замежную кнігу»—2014 піша **Вольга Гарапучык**.

У Белаазёрску сумна і шэра, перабоі з інтэрнэтам, ідзе снегадождж, і на вуліцу выходжу толькі для таго, каб пагуляць з сабакам. Астатні час выконваю функцыю правай рукі матулі, бо яе рука ў гіпсе. Дзіўны досвед. Не думала, што паўнавартаснае гатаванне і прыборка кватэры вымагае столькі часу. Ежа бясконца сканчаецца, і невядома хто наводзіць дома бардак.

Жыццё ператвараецца ў штодзённы алгарытм гатаванне — мыццё посуду — прыборка — гатаванне — выгул сабакі... Як матуля гэта паспявае, працуючы, я не ўяўляю.

Адзін добры чалавек зрабіў нечаканую прыемнасць: прыехаў без папярэджання з Мінска, прывёз кніг і кветак. Дзіўна так глядзець на чалавека, які ўспрымаецца выключна ў атмасферы Мінска і ніяк не тут. Тут увогуле нібыта нічога і нікога не можа быць. Толькі такая паглынальная пустэча ў гэты змрочны час.

Сяджу на кухні, чытаю прывезеную кнігу Сашы Філіпенкі «Былы сын», якая атрымала «Рускую прэмію» за 2014 год.

Нягледзячы на рускую мову, я адчуваю, што гэтая кніга нашая, пра нас. І яна цудоўная.

Чытаецца яна адным захадам, бо напісаная проста. Аўтар не меў мэты здзівіць эстэтыкай слова.

Сюжэт разгортваецца ў перыяд ад цісканіна на Нямізе ў 1999 да тэракта ў метро на Кастрычніцкай. Асноўная лінія і штодзённае жыццё герояў тонка і акуратна пераплятаюцца з палітычнай рэчаіснасцю. На фоне гісторыі жыцця і комы галоўнага героя мы даведваемся пра асноўныя падзеі ў Беларусі за гэты час. «Людзей саджаюць як... нават не ведаю... такое адчуванне, што нейкі аграном пераблытаў усіх людзей з бульбай і цяпер вось акучвае іх і саджае, акучвае і саджае».

Усё гэта змешчана ў кнізе памерам з нататнік. Але людзям, ангажаваным у жыццё незалежнага грамадства, твор можа падацца банальным. Вы і так ведаеце ўсё пра самы масавы Чарнобыльскі шлях 90-х, смерць Васіля Быкава, знікненне і забойства журналістаў і палітыкаў. Гэтыя падзеі, апісаныя па-расейску і ў нязвыклай стылістычнай падачы, выглядаюць чымсьці несапраўдным. Нібы гэта здарылася ў іншай краіне і дакладна не з намі. Таму, напэўна, руская чытача гэтая кніга так і ўразіла, не дарма ж ёй далі прэмію.

Гэтая кніга не для нас з вамі, такіх свядомых і дасведчаных, гэтая кніга для маіх суседзяў ці маіх аднагрупнікаў, гэтая кніга для прадавачак і будаўнікоў, яна для падлеткаў і дарослых, яна для тых, хто ходзіць са мной у краму і купляе цукар і рыс, яна для гэтай вялікай чаргі ля абменнікаў.

«Былы сын» — гісторыя пра шлях расчаравання ў нашай дзяржаве, да якой герой ужо не згодны належаць. Ён ужо не яе сын.

## Падарыце гэтую кнігу незаангажаваным сябрам

Таму я параіла б гэтую кнігу ў якасці падарунка для незаангажаваных сяброў. Наступны раз, калі пойдзеце да кагосьці з іх на чай, захапіце з сабой яе. Можа, на наступную раніцу ён прачнецца іншым чалавекам. Як піша Саша Філіпенка, «давайце навучым іх простым рэчам: думаць, сумнявацца і задаваць пытанні».

**Сюжэт рамана**

Галоўны герой — студэнт Франциск, якога сябры называюць проста Цыск. Трапіўшы ў цісканіну ў пераходзе на станцыі метро «Няміга», ён трапляе ў кому і праводзіць у ёй дзесяць год. Яго адракаюцца бацькі, сябры, жанчына, і толькі Беларусь застаецца нязменнай. Ды бабуля-інтэлігентка штодня сядзіць каля ягонага ложка. Толькі яна верыць, што Франциск выйдзе з комы. І ён вяртаецца ў прытомнасць, але бабуля памірае за пару дзён да таго. Цыск пасля комы блытае мовы, ён не можа зразумець, чаму за дзесяць гадоў Беларусь не стала свабоднай краінай. 19 снежня 2010 года ён ідзе на Плошчу…

На апошніх старонках кнігі мы бачым яго на вуліцы нямецкага партовага горада. Ён іграе на віянчэлі.

**Руская прэмія**

Прысуджаецца аўтарам, якія пішуць па-расейску, але не жывуць у Расіі. Заснаваная ў 2005.

## Сціслa

**Gorillaz вернуцца**

Амерыканскі віртуальны музычны праект Gorillaz вяртаецца пасля 4-гадовай паўзы. Gorillaz увайшоў у Кнігу рэкордаў Гінеса як «самы паспяховы віртуальны гурт». Сапраўдных твараў музыкаў ніхто не бачыў, яны з'яўляюцца ў кліпах у мульцяшным выглядзе, на сцэне — у масках.

**У Кардыльерах ушанавалі памяць Дамейкі**

Мемарыяльная дошка-прысвячэнне Ігнату Дамейку з'явілася на гары Сера-Кімаль дзякуючы беларусу Паўлу Гарбунову і кампаніі «Будзьма беларусамі!». У Чылі Дамейка працаваў больш за 40 гадоў і стаў нацыянальным героем гэтай краіны.

**Новыя эпізоды «Зорных войнаў»**

...выйдуць у 2015, 2016, 2017 і 2019 гадах. Даты з'яўлення фільмаў на экранах раскрыў кіраўнік Walt Disney Pictures Боб Айгер. Тым часам Джордж Лукас, стваральнік арыгінальных «Зорных войнаў», скептычна ставіцца да новых эпізодаў, у здымках якіх бярэ мінімальны ўдзел.

СМ

## ХАКЕЙ

### Прыедуць «маманты»




**7 лютага на «Мінск-Арэне»** «Дынама» прымае ханты-мансійскую «Югру», іх яшчэ называюць «мамантамі». Пачатак у 17:30. 9 лютага ў госці да «зуброў» завітае чэлябінскі «Трактар». Пачатак а 19.

## ІМПРЭЗЫ

### Марафон салідарнасці

**5 лютага за прылаўкам кнігарні «логвінаЎ» (Незалежнасці, 37а)** цэлую гадзіну будзе стаяць пісьменнік Адам Глобус. Пачатак а 19. Уваход вольны.

**6 лютага а 19 у кнігарні «логвінаЎ»** адбудзецца пілотная прэзентацыя альбома «Людміла Русава» з «Калекцыя пАРТызана»У прэзентацыі возьмуць удзел: Наталля Янкоўская, Вольга Сазыкіна, Таня Сяцко, сябры і калегі мастачкі Людмілы Русавай.

### Залаты апостраф

**9 лютага ў клубе «ДК» (вул. Талбухіна, 4, 3-ці паверх)** пройдзе цырымонія ўручэння прэміі часопіса «Дзеяслоў» за найлепшую прозу, паэзію і дэбют у 2014 годзе. Пачатак а 18:30.

## КАНЦЭРТЫ

### Зміцер Вайцюшкевіч

**6 лютага ў клубе «Піраты» (пр. Партызанскі, 6а)** адбудзецца канцэрт Змітра Вайцюшкевіча. Пачатак а 19. Білеты — 165 тысяч.

### Nizkiz у Браславе

**7 лютага ў Браславе** адбудзецца канцэрт рок-гурту Nizkiz. Месца правядзення — забаўляльны цэнтр Red. Пачатак а 22.










**Конкурс выканаўцаў беларускіх народных танцаў «Мяцеліца-2015»** адбудзецца 8 лютага ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41, Мармуровая зала). Пачатак а 11. Усе гледачы змогуць далучыцца да агульных танцаў падчас паўз і перапынкаў у спаборніцтвах.

### «Нагуаль»

**8 лютага а 19 у клубе «Графіці»** (зав. Калініна, 16) выступае гурт «Нагуаль».

### Tonqixod

**12 лютага ў TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** канцэрт гурту Tonqixod. Пачатак а 21. Уваход вольны.

## ТЭАТР

### 5 лютага

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Лялек** — Тарцюф
**Опера** — Алека
**Юнага гледача** — Міхалава зямля

### 6 лютага

**Балет** — Вітаўт
**Беларускай драматургіі** — Мабыць?
**Купалаўскі** — Translations
**Лялек** — Чаму старэюць людзі?..

### 7 лютага

**Балет** — Тысяча і адна ноч
**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Офіс
**Лялек** — Чырвоны Каптурок
**Опера** — Баль-маскарад
**Юнага гледача** — Маленькі лорд Фаўнтлярой

### 8 лютага

**Балет** — Жызэль, або Валісы
**Беларускай драматургіі** — Адэль, Гісторыя двух сабак
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Воўк і сямёра казлянят
**Опера** — Церам-церамок
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

### 10 лютага

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам
**Опера** — Рыгалета

### 11 лютага

**Балет** — Лаўрэнсія
**Беларускай драматургіі** — Містар Розыгрыш
**Купалаўскі** — Лістапад. Андэрсен
**Юнага глудача** — Тэдзі

### «Бі-лінгвы»

**7 лютага АРТ Карпарэйшн** запрашае на спектакль Андрэя Саўчанкі «Бі-лінгвы, ці Кураня з сэрцам». Месца правядзення — галерэя «Цэх» (пр.Незалежнасці, 58, корпус 6). Пачатак а 19.

## ВЫСТАВЫ

### Авантура

**У Цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3)** экспануецца выстава «Авантура» (Авангард + аголеная натура) з калекцыі Андрэя Плясанава. На ёй можна будзе пабачыць больш за сто работ у стылі «ню» 55-ці жывапісцаў. Структура экспазіцыі раскрывае асноўны жанравы дыяпазон, у якім «аголенасць» была кропкай адліку творчасці жывапісцаў-авангардыстаў. Многія мастакі працавалі з аголенай натурай, якая з канца XIX стагоддзя стала часткай абавязковай праграмы навучання ў акадэміях мастацтваў. Аднак калекцыя А.Плясанава сабрала творы тых, для каго малюнак цела быў неабходнай часткай творчасці.

## КІНО

### Паляўнічы на ліс

**Жанр:** драма, гісторыя, спорт
**Рэжысёр:** Бенет Мілер
**У ролях:** Стыў Карэл, Чэнінг Татум, Марк Руфала, Сіена Мілер, Ванэса Рэдгрэйв, Энтані Майкл Хол, Гай Бонд
ЗША, 129 хв.
**Адзнака:** 6 з 10

Мультымільянер Джон Дзюпон запрашае ў свой маёнтак уладальніка алімпійскага залатога медаля па вольнай барацьбе Марка Шульца для падрыхтоўкі сваёй каманды «Паляўнічыя на ліс» да Алімпійскіх гульняў у Сеуле 1988 года. Спадзяваючыся годна выступіць і выйсці з цяню свайго брата, чэмпіёна Дэйва Шульца, Марк прымае прапанову. Але хворы на галаву Дзюпон імкнецца атрымаць у сваю каманду і больш харызматычнага Дэйва, завязваючы небяспечную гульню з хлопцамі.

Стужка заснаваная на трагічных падзеях 1996-га: складаных адносінах паміж Джонам Дзюпонам і алімпійскімі чэмпіёнамі Маркам і Дэйвам Шульцамі, якія прывялі да смерці апошняга. Фільм мае вельмі няспешны тэмп развіцця падзей, якія ў рэальнасці расцягнутыя на дзесяцігоддзе, а тут укладаюцца года ў паўтара. Рэжысёр патроху нагнятае атмасферу, паказваючы пагаршэнне псіхічнага здароўя Дзюпона, апантанага ідэямі спартовай годнасці ЗША. У спробах дасягнуць сваёй мары ён гуляецца жывымі людзьмі, як цацкамі. На жаль, стужцы не стае дынамікі, а героі выглядаюць нежывымі — магчыма, гэта задумка рэжысёра: так маглі выглядаць людзі ў свядомасці вар'ята.

Спадабаецца найперш аматарам спорту, а таксама змрочных драм. Бенет Мілер атрымаў прыз на Канскім кінафестывалі — 2014 за найлепшую рэжысёрскую работу. Стужка таксама намінаваная на Оскар-2015 у некалькіх катэгорыях.

**Настасся Уласава**



# Як уцякалі з Валадаркі

Расказвае гісторык **Дзмітрый Дрозд.**

У савецкі час мінская турма на Валадарскага была непрыступнай. На пальцах можна пералічыць выпадкі ўцёкаў адтуль. Архіўныя справы ранейшых часоў малююць нам трохі іншую карціну.

Цудоўным вясновым днём 16 мая 1903 года наглядчык Мінскай турмы Рыгор Андруховіч стаяў на варце. Вечарэла. І раптам з акна на даху замкавай вежы ўпаў канец доўгай вяроўкі. Яшчэ імгненне — і па вяроўцы ўжо спускаўся арыштант! Наглядчык на некалькі секунд аслупянеў. Гэтага часу было дастаткова, каб чалавек у турэмнай вопратцы саскочыў на сцяну, якая падзяляла мужчынскі і жаночы дворыкі і пабег па ёй у бок турэмнай агароджы. «Стой, заб'ю!» — закрычаў ахоўнік і паспрабаваў хоць штыхом дастаць уцекача. Але той ужо саскочыў у турэмны сад.

Чаму ж не страляў, пыталіся ў Андруховіча пасля на допыце. Выявілася — не зарадзіў стрэльбу. Не чакаў, што хтосьці будзе ўцякаць у светлы час сутак. Потым, праўда, падкарэктаваў свае паказанні: маўляў, стрэльба была набітая, але сам ён разгубіўся ад нечаканасці.

Зрэшты, і крыкі наглядчыка не былі марнымі: з акна на паддашку выглядаў наступны арыштант. Але пачуўшы, што паднятая трывога, і не ведаючы, што зброя ў ахоўніка не зараджаная, ён не рызыкнуў спускацца па вяроўцы.

Яго пераняў на гарышчы памочнік начальніка Мінскага турэмнага замка Сямён Мянжынскі, які ў той дзень быў старэйшым па турме. Няўдалы ўцякач не вельмі быў рады гэтай сустрэчы і запусціў у Мянжынскага цаглінай, але не пацэліў і быў затрыманы.

## Ліннік і Ваўчок

Уцякалі з турмы двое сялян. Таго, што ўцёк, звалі Восіп Ліннік, а таго, каго злавілі на гарышчы, — Васіль Ваўчок. Былі яны, як сёння б сказалі, «падзельнікамі» і сядзелі за разбойны напад на дом памешчыка Мацкевіча. На час рамонту ў турме яны трапілі ў агульную камеру для катаржнікаў на трэцім паверсе.

Ліннік і Ваўчок былі рэцыдывістамі. Ваўчка Мінскі акруговы суд ужо двойчы судзіў за крадзяжы ў 1898 і 1901 гадах. Ліннік на момант арышту па справе Мацкевіча быў пазбаўлены ўсіх правоў стану. У яго лёсе адыграў ролю і сацыяльны фактар: Ліннік быў незаконнанароджаным, што ў вёсцы канца XIX стагоддзя найчасцей азначала галечу.

На злоўленага Ваўчка завялі новую справу — за замах на ўцёкі па папярэдняй змове з групай асобаў і ўзломам дзвярэй на гарышча турмы. Васіль Ваўчок прызнаў сябе вінаватым.

Тым часам Мянжынскі з наглядчыкамі і начальнікам турмы Міткевічам, які спешна прыехаў, дазнаўшыся пра здарэнне, аглядалі месца злачынства: калідоры, гарышча і дах. Адна за адной высвятляліся падрабязнасці дзёрзкіх уцёкаў.

## Кайданы разбілі сякерай

Умовы ўтрымання ў астрозе пачатку мінулага стагоддзя могуць падацца нам вальнейшымі — зняволеных пускалі ў прыбіральню, яны маглі, як пабачым далей, нават скрасці тое-сёе ў рабочых, якія рабілі ў турме рамонт. Але былі і свае мінусы: трымалі зняволеных у кайданах.

Калідорны наглядчык Мікалай Гарадзецкі адразу прызнаў сваю правіну: прапускаючы арыштантаў па ваду ў вежу, ён забыўся замкнуць дзверы. Наглядчык меркаваў, што арыштанты маглі трапіць у вежу, калі іх выпускалі з камеры ў прыбіральню.

Было высветлена, што дзверы з калідора ў вежу цэлыя, а дзверы з вежы на гарышча разламаныя напалам. На гарышчы пад цаглінамі былі знойдзеныя два ланцугі ад кайданоў, пры аглядзе якіх аказалася, што чатыры канцавыя кольцы, якія злучаюць ланцугі з абручамі, былі распілаваныя «тонкай пілкай з англійскай сталі», а пасля разагнутыя двума вялікімі цвікамі, вырваным з падваконня ў прыбіральні. Як пасля на допыце паказаў Ваўчок, кайданы яны з Ліннікам разбілі... сякерай, скрадзенай у будаўнікоў, што рабілі рамонт у турме.

Агульная карціна злачынства была зразумелая. Арыштанты скарысталіся памылкай наглядчыка Гарадзецкага, які забыўся замкнуць дзверы з калідора ў вежу, дзе размяшчаўся запасны рэзервуар з вадой і быў ход на гарышча. Ліннік і Ваўчок пранікні спачатку ў вежу, потым зламалі люк на гарышча. Там яны разбілі на сабе нажныя кайданы і звілі з бялізны, што якраз сушылася на гарышчы, тоўстую вяроўку, пусціўшы ў справу і знойдзеныя там жа старыя сеннікі. Наглядчыкі дзівіліся з даўжыні той вяроўкі: 12 сажняў (больш за 25 метраў!). Потым вынаходлівыя зэкі адламалі кавалак драўлянай кроквы, што засціў дахавае акно, і, умацаваўшы на гарышчы канец вяроўкі, вылезлі на дах. Адтуль Ліннік спусціўся на сцяну.

## На «15 сутак»

12 чэрвеня 1903 года пастановай Мінскага губернскага праўлення малодшыя наглядчыкі Мікалай Гарадзецкі і Рыгор Андруховіч былі аддадзеныя пад суд за халатнасць. Гарадзецкі і Андруховіч, што паходзяць з сялян адпаведна Стэпскай воласці, Бабруйскага павета і Койданаўскай воласці Мінскага павета, былі звольненыя і пакараныя двума тыднямі арышту пры паліцыі кожнаму.

Трохі даўжэй чакаў свайго суду няўдалы ўцякач. 17 лютага 23-гадовы селянін вёскі Пятровічы Навамышскай воласці Навагрудскага павета (цяпер Баранавіцкі раён) Васіль Ваўчок за спробу ўцёкаў быў пазбаўлены ўсіх правоў і аддадзены ў папраўчыя арыштанцкія аддзяленні тэрмінам на 2 гады і 6 месяцаў.

Пакаранне наўрад ці можна было лічыць цяжкім, але не варта забываць, што было гэта пакаранне толькі за спробу ўцёкаў з турмы, а не за астатнія злачынствы Ваўчка. Ужо 23 сакавіка 1904 суд гэты прысуд прыпыніў, а ў чэрвені Ваўчок на падставе шэрагу артыкулаў быў асуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў і высылкі на катаржныя работы тэрмінам на 6 гадоў.

## Эх, раз...

Восіпа Лінніка так і не знайшлі. Вядома, што класіка — натхняе. У ноч з 2 на 3 снежня 1904 пяцёра арыштантаў на чале з Васілём Ваўчком паспрабавалі паўтарыць «класічныя ўцёкі» Лінніка і Ваўчка. На тое, што наглядчык забудзецца замкнуць дзверы камеры, ужо разлічваць не даводзілася. І ўцекачы металічным прутом прабілі дзірку ў сцяне пад нарамі, а праз яе трапілі ў калідор, што вядзе на гарышча. Там Ваўчок ужо ведаў, што рабіць: дзверы на гарышча былі не выбітыя сілай, каб не шумець, а адкрытыя адмычкамі. Акрамя таго, загадзя былі нарыхтаваныя дзве вяроўкі: адна вялікая, каб спусціцца з даху, а другая паменш, з грузам на канцы, каб перакінуць праз турэмную сцяну (бегчы па сцяне на вачах наглядчыка Ваўчок ужо не рызыкнуў).

Але арыштантаў, якія вылезлі праз слыхавое акенца гарышча, выдаў металічны дах. У зімовую ноч ён гучна грукатаў, калі па ім хадзілі ўцекачы. Наглядчыкі пачулі і ўзнялі трывогу. Спачатку была выяўленая дзірка ў сцяне камеры, а потым усе пяцёра ўцекачоў на чале з Ваўчком, які не змірыўся з першай няўдачай, былі злоўлены на гарышчы.

**Дзмітрый Дрозд** — гісторык-архівіст, аўтар кнігі «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

# Душа абракнецца

Пра паэтку з Веткі Ларысу Раманаву піша **Юлія Шымкевіч**.

Ларыса Раманава — не гучнае, не крыклівае імя ў беларускім літаратурным працэсе. Яна ціха-мірна робіць сваю справу, жывучы і працуючы ў постчарнобыльскай Ветцы вядучым навуковым супрацоўнікам Музея стараабраднiцтва і беларускіх традыцый імя Фёдара Шклярава. Нарадзілася ў настаўніцкай сям'і ў вёсцы Покаць Чачэрскага раёна.

«Кожны чалавек, калі нараджаецца, адкрывае для сябе сусвет, наш сусвет. З такім вялікім болем прыходзіш у гэты свет — відаць, усё гэта не проста так. У сваім жыцці кожнаму з нас трэба і неабходна зрабіць нешта такое, якое толькі ён адзін і можа зрабіць. Можа, гэта называецца талентам, а можа — сутнасцю ягонага жыцця».

Першы верш быў пра каханне да аднакласніка. У 13 гадоў. Верш быў напісаны пад уражаннем расповедаў старэйшай сястры Святланы Раманавай, аўтара кнігі «Смарагдавы рай», якая на той час вучылася ў Мінску, пісала вершы і часта расказвала пра знаёмствы са сталічнымі пісьменнікамі і паэтамі.

У канцы 80-х — пачатку 90-х Ларыса ўзначальвала філію «Тутэйшых» — гомельскую «Поўню». Спачатку праз аповеды сястры, а потым і сама пазнаёмілася з Анатолем Сысам.

«Ён быў незвычайны тым, што мог сабе многае дазваляць у паэзіі. Сцвярджаў, што мы павінны будаваць рай тут, на сваёй зямлі — «Глядзі, Ларыса, колькі вакол нас прыгожых людзей!» — і ўсё лепшае аддаваць сваёй зямлі. Гэтыя выказванні былі для мяне жыццёвым стрыжнем. Хацелася б, каб свой «горад-герой Гарошкаў быў у сэрцы кожнага беларуса». Зараз мне сняцца вершы Анатоля, не выдадзеныя, не надрукаваныя. Але гэта асобныя радкі. Прыгожыя радкі. Цяпер я іх не памятаю — у сне адчуваеш жыццё па-іншаму, там усё іншае».






Ветка зачаравала Ларысу. Перапляценне дзівосных чалавечых гісторый, народных традыцый, дыялектнай лексікі, незвычайных слоў, ручнікоў і замоў, пахавання Свячы, чалавечага і Боскага... З гэтага раслі вершы.

Шэрай асноваю снежань выснуе
тое, што студзень і люты выслаўляць
карункамі шэрані,
птушыным ціўканнем.
Каляны, кляновы
Міколам скаваны,
саломай засланы,
без цвікоў збудаваны,
мост перакінецца —
з дому у дом,
з сэрца ў сэрца:
душа «абракнецца».

«Я частка сваёй зямлі. Мае вершы прысвечаны гэтай зямлі і людзям, жанчынам, што ткалі ручнікі — мастацкія творы — тэксты, не літарамі пісаныя, а ўзорамі. У нашых людзях ёсць асаблівая прыгажосць, трываласць і моц, якая не перарываецца на працягу тысячагоддзяў. Нядаўна на занятках паказвала дзецям здымак старажытнага глінянага кубка з бронзавага веку, які быў знойдзены на раскопках ва ўрочышчы Стрэліца Веткаўскага раёна. На ім — арнамент: маленькія ромбікі з крыжыкамі ўнутры. Такія ж узоры на нашых ручніках».

«Полым'я кітуе» — што азначае «полымя гарыць» — так кажуць, напрыклад, толькі ў вёсцы Перамога Веткаўскага раёна. «Знаймацца» з іконай (у значэнні пазнаёміцца, што значыць — пакланіцца ёй, памаліцца перад ёй) могуць прапанаваць у вёсках на ўсходнім Палессі. У тых вёсках і зараз «абракаюцца» — просяць пра нешта важнае ў Бога каля аброчных крыніц, абразоў у царкве.

Яна назбірала вершаў на тры кнігі паэзіі — «Аддай асалоду Богу», «Птушкі і рыбы» і «Святая вада». Паэтычныя радкі пацвярджае празаічнымі ўчынкамі — пачала дбаць пра крыніцы, ладзіць у Ветцы добраахвотныя акцыі па навядзенні парадку на стараабрадніцкіх могілках. Да акцыі далучыўся калектыў райвыканкама на чале са старшынёй.

«Вясной 2013 года, калі яшчэ не сышоў снег, была ў Вялікіх Нямках. Там ёсць рэчачка, якая пачынаецца з Царыцынай крыніцы. Я спусцілася ўніз да яру, дзе павінна была быць крыніца. Аказалася, што вада ледзьледзь прабіваецца пад 60-сантыметровым слоем гною, які сцёк сюды па разорах у зямлі з фермы. Я прайшла ўздоўж усяго цячэння «рэчачкі». Вада ў ёй паступова святлела. Дзесьці праз кіламетр ад яе «вусця» ўбачыла старыя драўляны зруб — то была іншая, Яловая, крыніца, якая знаходзіцца метраў за дзесяць ад забруджанай рэчачкі».

У Яловай крыніцы Ларыса набрала вады, каб зрабіць хімічны аналіз. Вада з яе выявілася лепшай, чым эталонная.

Паэзія — найлепшая вада, якая змяняе звыклыя ўяўленні і дае волю жыць, ніглядзячы ні на што. Сонца, якое саграваe (бывае, што і абпякае), зямля, што бывае пухам, паветра, якім дыхаеш. Вада — адно з найбольшых цудаў на свеце. Як і мы, людзі. Нездарма ў вёсцы Фёдараўка кажуць: ключы — як чалавек. Варта памятаць пра гэта ды імкнуцца ачысціць ад бруду сваю душу і жыццё, зямлю, якую любіш».

Горача ад золак — аж спякотна,
пад нагамі вогнішча, ад зёлак — дым.
У зялёным небе човен праплывае,
Бог зеленавокі ў чоўне тым.
Ззяе свечкамі трыпутнік, бы
дзіцяці цела,
кветкі матылькамі ноччу
расцвілі.
Ліпень.

Мы глядзім з табой праз шкельца
і запамінаем, дзе былі.

Неглюбка заўсёды славілася сваім ткацтвам. Тут праводзілі фестывалі ручнікоў. Але на дадзены момант у Неглюбцы жыве толькі чатыры ткачыхі. 100 гадоў таму кросны былі ў кожнай хаце. «Калі няма попыту на ручное ткацтва — гэта азначае, што губляюцца мастацкія густы, губляецца значная частка народнага менталітэту. Тое ж можна сказаць пра драўлянае дойлідства, пляценне з саломкі, мастацкую вышыўку. Губляецца самаідэнтыфікацыя. Я з жахам назіраю, як паміраюць нашы вёскі, як па загадзе ўлады без дазволу мясцовых жыхароў ушчэнт знішчаюцца дрэвы, якія былі высаджаны раней уздоўж гасцінцаў і вясковых дарог — яблыні, грушы, клёны, ліпы — абсалютна здаровыя дрэвы. А новыя дрэвы пры гэтым ніхто не думае высаджваць».

Пры Веткаўскім музеі стараабраднiцтва і беларускіх традыцый працуе Школа старажытнай і сучаснай народнай культуры «Аз, букі, ведзі — глаголь дабро!». Супрацоўнікі музея расказваюць школьнікам пра нашу культуру і традыцыі. Праводзяцца заняткі, прысвечаныя іконам і рукапісам, створаным у гэтай мясцовасці. Напрыклад, у першым і другім класе адбываюцца заняткі на такія тэмы, як «Зямля і неба ў касцюме чалавека», «Чарадзейныя памочнікі» і гэтак далей. Чарадзейныя памочнікі — гэта розныя прадметы з магічнымі ўласцівасцямі, звяры з народных казак і легендаў.

«Чалавечае жыццё ў наш час вельмі абясцэнілася. Амаль сышлі ў нябыт галашэнні на пахаванні. Раней заўсёды аплаквалі нябожчыка. Песняй суправаджалі сыход у іншы свет. Цяпер гэтага не ўбачыш, не пачуеш. Жыў чалавек, сканаў — і як не было яго. І безгалосая яго магіла засталася. Безгалосая — па-неглюбску — магіла неаплаканага чалавека.

Грамадства наша хворае. Дыягназ — духоўная беднасць. ...Але так не бывае, што чалавек нараджаецца і жыве абсалютна здаровы. Калі размаўляеш з бабулямі, якім за семдзесят, чуеш ад іх, што зямля наша схаладнела, што яна — заклятая. А раней ў ёй хадзілі анёлы, Маці Божая, Ісус Хрыстос, святыя людзі. Засталіся толькі ўспаміны ў назвах — як на полі кветкі, што завуцца Маці Божай слёзкамі. Назвы кветак, прадметаў, прамоўленыя на роднай мове, перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Ёсць надзея, што гэтыя словы заўсёды застануцца ў нашай свядомасці. Інакш жыць немагчыма».

Калі словы льюцца як воск
быццам слёзы на цёплы хлеб
па рацэ будзеш ісці
не праз мост
а так
проста
як Ісус
па вадзе



КІРЫЛА ХІЛЬКО

Веснічкі, упрыгожаныя «Пагоняй», у вёсцы Малоткавічы Пінскага раёна.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Ля Камароўскага рынку на стэндзе «Смак беларускай мовы» быў прымацаваны плакат з надпісам «Маё першае слова на роднай мове — допыт». Падобныя плакаты з іншымі слоганамі: «Маё першае слова — арышт», «Маё першае слова— кайданкі» — былі расклееныя ў іншых кропках Мінска анархістамі. Яшчэ адну акцыю салідарнасці анархісты правялі 29 студзеня. Яна прайшла каля дома, дзе жыве суддзя, які судзіў анархістаў. На пад'ездах і машынах у двары актывісты пакінулі ўлёткі пра гэтую справу і ролю ў ёй суддзі.



МАГДАЛЕНА ПЕТРУК.

31 студзеня ў саборы Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью-Ёрк) адбылася прэзентацыя кнігі Віталя Воранава «Шэптам». Кніга запрашае чытача ў чарадзейны свет беларускіх шаптух. На фота: вядомая пад Бельскам Падляскім шаптуха Ганна з Руткі.



Гэта не сметніца. Гэта галоўная рэчка філіпінскай сталіцы Манілы. Рака Пасіг лічыцца самай бруднай у свеце. Яшчэ ў сярэдзіне 1990-х яна была прызнаная біялагічна мёртвай.

## Анекдоты і жарты

* * *

Кіраўнік Беларусі кажа, што грошы зло. Таму імкнецца, каб беларусы са злом сутыкаліся менш.

* * *

Мужчына заходзіць у бар:

– Усім выпіўку за мой кошт! У мяне нарадзіўся сын!

– Віншуем, якая вага?

– 4 кг!

– А рост?

– 53 см!

– Як жонка пачуваецца?

– Жонка яшчэ не ў курсе.

* * *

Як правільна рамантаваць камп'ютар:

1. Выключыў.
2. Уключыў.
3. Гатова.

* * *

Google, прааналізаваўшы перапіску буйнога чыноўніка, стаў выдаваць у кантэкстнай рэкламе спасылкі на артыкулы Крымінальнага кодэкса.

* * *

Жыхар расійскай глыбінкі выйшаў на вуліцу і выпадкова прагледзеў «Левіяфан».

* * *

– У цябе завышаная самаацэнка.

– Ты так кажаш, нібыта я вінаваты, што лепшы за цябе.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Трамвай у Мінску.** На вясну распачнуцца работы пры ўстройстве ў Мінску электрычнага трамвая. Шыны, падклады і г.д. камісія ўжо прыняла. За колькі тыдняў будуць дастаўлены часці вагонаў.

**«НН». №5. 1915.**

**Валянцін Тарас:** «Я яшчэ памятаю той Менск, калі Беларускае радыё пачынала свае перадачы словамі: «Увага, увага! Гаворыць Менск». Менск, а не Мінск. «Радыёстанцыя імя Камінтэрну. Зараз 13 гадзін па менскім часе, 14 — па маскоўскім». Потым тая ж абвестка на рускай мове, на польскай, на ідыш. Я гэта яшчэ памятаю. І таго Менску амаль не засталося. Засталіся куточкі. І яны мне па сёння вельмі дарагія. Чырвоны касцёл, могілкі Кальварыйскія».

**«НН». №5. 2005.**

**9 лютага нашаму аўтару, юнаму партызану ў часы вайны і фундатару «Нашай Нівы» Валянціну Тарасу споўнілася б 85 гадоў. Вечная памяць!**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 03.02.2015.
Замова №502.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15005